ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 41 (2567)
ПЯТНІЦА
8
кастрычніка 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

*Пройдзе год-два, і на Паркавай магістралі, побач з гасцініцай «Юбілейнай», узнімецца высокі прыгажун-гмах — трынаццаціпавярховы Дом кнігі. Гэты палац стане аднолькава дарагі выдаўцам і кнігалюбам — тут кніга будзе і стварацца, і прадавацца.*

*Набыць кнігу можна будзе ў двухпавярховай фірменнай кнігарні, пазнаёміцца з навінкамі, прыняць удзел у іх абмеркаванні — у канферэнц-зале; пачытаць захочацца — да вашых паслуг бібліятэка. Сюды, у Дом кнігі, чытачы змогуць прыйсці на цэлы дзень — ім прапануюць абед у двухпавярховым кафэ.*



## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

# У СЯМ'І АДЗІНАЙ

*Працягваем друкаваць інтэрв'ю нашага карэспандэнта з кіраўнікамі творчых саюзаў і арганізацый аб тым, як грамадскасць рэспублікі збіраецца адзначыць вялікае свята народаў нашай краіны — 50-годдзе СССР. Нам паведамляюць:*

## У САЮЗЕ КАМПАЗІТАРАЎ БССР

— Працягваючы традыцыі знаёмства з музычнай творчасцю братніх народаў (а мы ўжо сустракаліся з малдаўскімі, літоўскімі і чувашскімі калегамі), мяркуем гэтай зімой наладзіць сустрэчы з кампазітарамі Украіны і Латвіі, — расказвае адказны сакратар праўлення Саюза кампазітараў БССР Генрых Вагнер.— Пазнаёмімся з іх здабыткамі і планамі, паслухаем новыя творы. Акрамя таго, наладзім некалькі вечароў, дзе будзе гучаць музыка розных народаў СССР.

Аматары музыкі і прафесіяналы краіны пазнаёмяцца з творамі беларускіх кампазітараў дзякуючы зборнікам, якія рыхтуюць зараз ленінградскія выдавецтвы «Музыка» і «Советский композитор». У іх увойдуць кантата А. Багатырова «Беларускія песні», араторыя Д. Смольскага «Мая Радзіма», канцэрт для фартэпіяна з аркестрам С. Картэса «Капрычас», творы П. Падкавырава, Л. Абеліёвіча, Я. Глебава, Э. Тырманд, К. Цесакова і іншых кампазітараў.

Сёлета наш народ адзначае яшчэ адну важную дату ў гісторыі краіны — 50-годдзе арганізацыі юных ленінцаў. Мяркуем правесці некалькі канцэртаў у піянерскім лагеры «Зубронак» на Нарачы. Нашы кампазітары будуць там частымі гасцямі.

У пачатку вясны будзе праведзены пленум, на якім прагучаць творы маладых кампазітараў — як членаў саюза, так і навучэнцаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. На ім будуць выкананы і творы, прысвечаныя 50-годдзю СССР.

Усталёўваем самыя цесныя сувязі з кіраўніцтвам опернага тэатра, музычных рэдакцый радыё і тэлебачання для сумеснай прапаганды лепшых дасягненняў беларускай музыкі і музыкі братніх народаў нашай краіны.

## НА БЕЛАРУСКІМ РАДЫЁ

— Самымі актыўнымі ўдзельнікамі нашых перадач будуць сёлета беларускія пісьменнікі, — паведамляе галоўны рэдактар літаратурна-драматычнай рэдакцыі Беларускага радыё Анатоль Залеўскі. — Рыгор Няхай падзеліцца ўспамінамі пра партызанскі рух на Украіне, Мікола Ткачоў раскажа пра творчыя сувязі нашага Саюза пісьменнікаў з саюзамі іншых рэспублік, Павел Кавалёў — пра незабыўныя сустрэчы ў Малдавіі, Іван Мележ — пра сваіх латышскіх сяброў, Еўдакія Лось — пра ўзбекскіх.

Мы ўжо знаёмілі нашых радыёслухачоў з прататыпамі рамана Петруся Броўкі «Калі зліваюцца рэкі»— будаўнікамі электрастанцыі «Дружба народаў». Сёлета вернемся да гэтай перадачы, пашырыўшы і паглыбіўшы яе. Думаем таксама пабываць у Грузіі, у тых мясцінах, якія натхнілі Эдуарда Самуйлёнка на стварэнне яго рамана «Будучыня». Будзем пастаянна перадаваць вершы, апавяданні і ўрыўкі з буйных празаічных твораў пісьменнікаў братніх народаў. Асобныя перадачы прысвяцім калмыцкаму пісьменніку Мікалаю Ханінаву і татарскаму Закі Нуры.

«Прызнанне ў любві» — так будзе называцца цыкл перадач, прысвечаных тэме дружбы народаў у сучаснай беларускай паэзіі. І сустрэчная тэма — «Табе, Беларусь!» — радыёкампазіцыя па творах паэтаў іншых рэспублік.

Асобае месца зойме кампазіцыя «Дарогамі дружбы» з выкарыстаннем вершаў і паэм Янкі Купалы і Якуба Коласа. Асобае, таму што ў 1972 годзе спаўняецца 90 год з дня нараджэння абодвух вялікіх песняроў, і рэдакцыя кожны тыдзень будзе прысвячаць іх творчасці адну з перадач.

Важныя этапы ў гісторыі Савецкай Беларусі адлюстроўваюць нашы радыёспектаклі. Рэжысёр Ул. Багалюбскі пачаў работу над інсцэніроўкай рамана Платона Галавача «Праз гады». С. Гурыч будзе ставіць радыёп'есу А. Шлега «Праўда адна», якая расказвае пра барацьбу за Савецкую ўладу ў Беларусі. Над п'есай «Жнівеньскія навальніцы» пра жыццё сучаснай беларускай вёскі працуе А. Пётух. Як заўсёды, ажыццявіць задумы нам дапамогуць артысты мінскіх тэатраў і асабліва купалаўцы, якіх мы актыўна прыцягваем да ўдзелу ў рабоце рэдакцыі.

## У МІНСКІМ АБЛАСНЫМ УПРАЎЛЕННІ КУЛЬТУРЫ

Як паведаміў нашаму карэспандэнту старшы інспектар Х. Унук, у вобласці ідзе дзейсная падрыхтоўка да 50-годдзя ўтварэння СССР. Паўсюдна прайшлі семінары клубных і бібліятэчных работнікаў, прысвечаныя юбілею. Днямі адбудзецца нарада загадчыкаў раённых аддзелаў культуры аб задачах па падрыхтоўцы да знамянальнай даты.

У бібліятэках арганізуюцца выстаўкі, якія раскажуць пра дасягненні братніх літаратур і культур народаў нашай шматнацыянальнай краіны.

Агіткалектывы рыхтуюць спецыяльныя канцэртныя праграмы, прысвечаныя дружбе народаў. Ва ўсіх раённых цэнтрах будуць праведзены вечары на тэму: «У сузор'і братніх рэспублік краіны». У Маладзечне і Барысаве такія вечары ўжо рыхтуюцца. Пра дасягненні вобласці за пяцьдзесят гадоў раскажа тэлепраграма з цыкла тэлеконкурсу абласцей рэспублікі, якую рыхтуе Беларускае тэлебачанне да 50-годдзя Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Сёння ў Маладзечанскім гарадскім Доме культуры адбудзецца вялікі вечар на тэму «Саюз непарушны рэспублік свабодных». У ім прымуць удзел ветэраны працы, знатныя людзі горада. Тэматычны рэпертуар рыхтуе Маладзечанскі ансамбль танца. Такія ж вечары будуць праведзены ў іншых раённых цэнтрах вобласці.

Усю работу па падрыхтоўцы да 50-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік мы спалучаем з прапагандай рашэнняў XXIV з'езда КПСС.

## У БРЭСЦКІМ АБЛАСНЫМ УПРАЎЛЕННІ КУЛЬТУРЫ

— Брэсцкая зямля, авеяная неўміручай славай, — сказаў намеснік начальніка абласнога ўпраўлення культуры М. Лукашук, — стала сімвалам інтэрнацыянальнай дружбы народаў нашай краіны. Штодзень да нас едуць людзі з усіх канцоў нашай зямлі. Едуць, каб пакланіцца памяці герояў-абаронцаў крэпасці, наведаць Белавежскую пушчу, музей імя Суворава. Асабліва цесныя ў нас сувязі з нашай суседкай—братняй Украінай. Іванаўскі і Столінскі раёны нашай вобласці спаборнічаюць з Ратненскім і Высоцкім раёнамі Ровенскай вобласці. Між іншым, праводзім мы сумесныя семінары культасветработнікаў, дзе ідзе абмен вопытам работы, святы працы і песні, абменьваемся канцэртамі мастацкай самадзейнасці.

Не так даўно ў Брэсце гасцявалі артысты з Тарнопаля. Да нас прыязджаў іх Тырольскі аркестр. Пінскі ансамбль танца «Палессе» выступаў у Тарнопалі на свяце жывёлаводаў. Такі ўзаемны абмен культуры ўзбагачае нашу дружбу.

## У ГОМЕЛЬСКІМ АБЛАСНЫМ УПРАЎЛЕННІ КУЛЬТУРЫ

— 23 верасня ў Палацы чыгуначнікаў імя У. І. Леніна, — паведаміў метадыст абласнога ўпраўлення Л. Штайнбук, — мы правялі народныя чытанні, прысвечаныя 50-годдзю СССР. У іх прынялі ўдзел прадстаўнікі трох братніх рэспублік: РСФСР, Украіны і Беларусі.

Чытанні, прысвечаныя юбілею, намечана таксама правесці ва ўсіх раённых дамах культуры. У раённых дамах культуры, клубах будуць праведзены кінавечары на тэму «Широка страна моя родная».

Адбыўся ў нас семінар самадзейных кампазітараў, на ім быў аб'яўлены конкурс на лепшую песню да 50-годдзя Краіны Саветаў. Прайшлі семінары кіраўнікоў харавых і танцавальных калектываў, кіраўнікоў раённых дамоў культуры.

Рыхтуемся да правядзення аглядаў і фестываляў самадзейнага мастацтва, прысвечаных юбілею.

# СУСВЕТНЫ ФОРУМ МУЗЫКІ

У сталіцы нашай Радзімы Маскве пачалася генеральная асамблея Міжнароднага музычнага савета ЮНЕСКА, на якую з'ехаліся прадстаўнікі пяцідзесяці краін свету. Пасля асамблеі адбудзецца Міжнародны кангрэс музыкантаў. Яго тэма — «Музычныя культуры народаў: традыцыі і сучаснасць». Упершыню ў такіх маштабах будуць абмеркаваны праблемы развіцця сучасных музычных культур, узаемадзеяння культур Усходу і Захаду.

У прадстаўнічым форуме музыкантаў ад Беларусі ўдзельнічаюць народныя артысты СССР Р. Шырма і Г. Цітовіч, народны артыст БССР А. Багатыроў, кандыдат мастацтвазнаўства Л. Мухарынская.

# УНІКАЛЬНЫ ДАР

Экспазіцыя Дзяржаўнага мастацкага музея БССР папоўнілася унікальнымі экспанатамі. Гэта дар французскай мастачкі Н. Лежэ — керамічныя вырабы з роспісам па малюнках П. Пікасо, створаныя ў майстэрні славутага мастака. Гэта не першы падарунак, што атрымаў музей ад нашай землячкі Н. Лежэ. Раней яна падарыла калекцыю каштоўных мастацкіх рэпрадукцый ручной работы.

# БЕЛАРУСКАЯ ПАЭЗІЯ НА УКРАІНЕ

Творчасць беларускіх пісьменнікаў выклікае вялікую цікавасць чытацкай грамадскасці Савецкай Украіны.

Зараз, рыхтуючыся да святкавання пяцідзесяцігоддзя ўтварэння СССР, рэспубліканскае выдавецтва «Дніпро» выпускае двухтомнік паэзіі савецкіх пісьменнікаў Беларусі.

У першым томе гэтага выдання ўкраінскі чытач знойдзе паэмы Янкі Купалы «Тарасова доля», «Безназоўнае», вершы «Госці», «Алеся» і іншыя. Тут жа творы Якуба Коласа — «Голас зямлі», «Суд у лесе».

Шырока прадстаўлена творчасць народных пісьменнікаў Беларусі Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Кандрата Крапівы, а таксама Пятра Глебкі, Уладзіміра Дубоўкі, Андрэя Александровіча, Максіма Лужаніна, Анатоля Астрэйкі, Аляксея Зарыцкага.

Другі том адкрываецца творамі народнага паэта Максіма Танка. Творчасць яго прадстаўлена паэмай «Антон Нябаба», вершамі з кнігі «Нарачанскія сосны» і некаторымі іншымі.

Сярод аўтараў другога тома — Пімен Панчанка, Міхась Калачынскі, Антон Бялевіч, Рыгор Няхай, Мікола Аўрамчык, Пятро Прыходзька, Аляксей Пысін, Валянцін Таўлай, Алесь Бачыла, а таксама прадстаўнікі маладзейшага пакалення беларускіх паэтаў — Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Хведар Жычка, Анатоль Вярцінскі, Анатоль Грачанікаў і многія іншыя.

БЕЛТА.

# ПІСЬМЕННІКІ—ГОСЦІ РАБОЧЫХ

Паэты Пятро Прыходзька і Іосіф Васілеўскі нядаўна наведалі Кобрынскі раён. Цікава прайшла іх сустрэча з рабочымі Кобрынскай швейнай фабрыкі. П. Прыходзька расказаў пра свой творчы шлях, пра баявыя паходы—ад Курска да Берліна—у гады мінулай вайны, прачытаў некалькі новых вершаў і ўрывак з паэмы «Вішнёвы агонь». Спадабаліся слухачам і вершы І. Васілеўскага.

Паэты выступілі таксама перад вучнямі і настаўнікамі Гарадзецкай школы-інтэрната, рабочымі Кобрынскага рамонтнага завода, наведалі ваенна-гістарычны музей імя А. В. Суворава.

Б. ЗІНКЕВІЧ.

# НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ

Упершыню БДТ-1, як тады называўся Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, паставіў камедыю «Без віны вінаватыя» А. Астроўскага ў 1938 годзе. У панядзелак, 4 кастрычніка, праз трыццаць тры гады, рэжысёр, народны артыст СССР Л. Рахленка пазнаёміў мінчан з новай рэдакцыяй пастаноўкі. Галоўныя ролі выконвалі народная артыстка СССР Л. Ржэцкая, народны артыст БССР М. Яроменка, заслужаныя артысты БССР Т. Аляксеева, Г. Арлова, Б. Уладамірскі, артысты А. Мазлоўскі і М. Казінін. Дэкарацыі выкананы па эскізах мастака Б. Герлавана, музыку напісаў кампазітар С. Картэс. На здымку вы бачыце Л. Рахленку ў ролі Ніла Стратоныча Дудукіна і Т. Аляксееву ў ролі Алены Кручынінай.

Лірычную драму «Білет у мяккі вагон» А. Маўзона паказвае Дзяржаўны рускі тэатр БССР імя М. Горкага ў пастаноўцы рэжысёра А. Смелякова. Аформіў спектакль мастак А. Салаўёў. У галоўных ролях — народныя артысты БССР Г. Абуховіч і Р. Янкоўскі, артысты Л. Арцабасава, Л. Былінская і іншыя. На здымку: І. Ражба (Багун) і В. Шур (Сцяпан).





# НАШ ВЯЛІКІ АБАВЯЗАК

Хуткая і магутная плынь нашага жыцця. Здаецца, зусім нядаўна ў Маскве на XXIV з'ездзе КПСС прымаліся захапляючыя наш народ і здзіўляючыя свет рашэнні. Мінула ўсяго паўгода, і ўжо радуюць нас першыя вынікі барацьбы працоўных нашай краіны за ажыццяўленне рашэнняў з'езда. Прамысловасць нашай рэспублікі датэрмінова выканала дзевяцімесячны план па рэалізацыі прадукцыі. У гэтым годзе работнікі сельскай гаспадаркі Беларусі ўпершыню сабралі па 22 з лішнім цэнтнера збожжа з гектара.

Творы літаратуры і мастацтва не ствараюцца так хутка, і ўсё ж мы можам парадавацца і ўкладам дзеячоў літаратуры і мастацтва ў духоўнае жыццё народа. За пасляз'ездаўскі час у літаратурных часопісах надрукавана нямала цікавых мастацкіх твораў, нарысаў, крытычных артыкулаў. На сцэнах тэатраў адбыліся прэм'еры новых п'ес. На экранах кіно і тэлебачання з'явіліся новыя фільмы, на выстаўках—новыя творы выяўленчага мастацтва, у канцэртах—творы кампазітараў. Можна назваць некаторыя творы, якія з цікавасцю і хваляваннем чыталіся, глядзеліся, слухаліся. Назавём тут надрукаваныя ў «Полымі» раман Алеся Асіпенкі «Непрыкаяны маладзік», раман Івана Пташнікава «Мсціжы», раман Алеся Якімовіча «Кастусь Каліноўскі», дакументальную аповесць Алеся Савіцкага «След пакідае першы», паэму Аркадзя Куляшова «Далёка да акіяна», паэму Аляксея Русецкага «Маналог зямлі», паэму Васіля Зуёнка «Сяліба», цыклы вершаў Петруся Броўкі, Максіма Танка, Кастуся Кірэенкі, Васіля Віткі, Міколы Аўрамчыка, Аляксея Пысіна, творы, надрукаваныя ў «Маладосці»: раман «Плач перапёлкі» Івана Чыгрынава, аповесці Васіля Быкава «Абеліск», У. Паўлава—«Нас поле не засеяна». З поспехам ідуць на сцэне п'есы Андрэя Макаёнка «Трыбунал» і «Зацюканы апостал», «Начное дзяжурства» Анатоля Дзялендзіка, «Амністыя» Міколы Матукоўскага, «Білет у мяккі вагон» Аркадзя Маўзона. На экранах з'явіліся фільмы «Паланез Агінскага» рэжысёра Льва Голуба і сцэнарыста Кастуся Губарэвіча, дакументальны фільм «Бронзавы салдат» рэжысёра Барыса Сарахатунава. На блакітным экране тэлегледачы ўбачылі фільм «Уся каралеўская раць» па рамане Роберта П. Уорэна, спектакль па творах народнага паэта Беларусі Янкі Купалы «Па шчасце, па сонца...», радыёспектакль па кнізе Івана Шамякіна «Першы генерал». Парадавалі слухачоў новыя музычныя творы Анатоля Багатырова, Юрыя Семянякі, Генрыха Вагнера, Яўгена Глебава, Ігара Лучанка. Адкрыццё мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой», створанага калектывам скульптараў і архітэктараў на чале з А. Кібальнікавым, А. Бембелем і У. Каралём, таксама адбылося ў пасляз'ездаўскія дні. Хоць тут і няпоўны пералік, але, як бачыце, зроблена нямала.

Творчая інтэлігенцыя не можа пакуль што пахваліцца сваімі 22 цэнтнерамі духоўнай прадукцыі з гектара, але штодзённы ўдзел яе ў жыцці, духоўны і ідэйны ўплыў адчувальны. Кожны дзень толькі на экраны кіно рэспублікі скіроўваецца зрок 350—400 тысяч гледачоў. А дадайце сюды экраны тэлевізараў, тэатральныя і клубныя сцэны. Хатынь наведала каля трох мільёнаў людзей. У Палацы культуры, калгасныя клубы, заводскія цэхі штодзённа прыходзяць і сустракаюцца з рабочымі, калгаснікамі, інтэлігенцыяй літаратары, артысты, рэжысёры, кінаработнікі, мастакі. Пасля з'езда Бюро прапаганды літаратуры СП наладзіла каля пяці тысяч сустрэч пісьменнікаў з чытачамі. За гэты час сустракаліся вядомыя ў рэспубліцы пісьменнікі Кандрат Крапіва, Максім Танк, Іван Шамякін, Іван Мележ, Піліп Пестрак, Максім Лужанін, Аляксей Кулакоўскі, Васіль Вітка, Алесь Бачыла, Уладзімір Карпаў, Мікола Ткачоў, Станіслаў Шушкевіч і іншыя.

Партыя высока цэніць руплівую творчую і грамадскую працу дзеячоў літаратуры і мастацтва, ролю іх твораў у камуністычным выхаванні савецкага чалавека. У той жа час ні партыю, ні саміх творцаў не можа задаволіць сённяшні стан, калі так можна сказаць, вытворчасці духоўнай прадукцыі, яе колькасці і асабліва якасці. Аб гэтым ішла гаворка ў святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС на рэспубліканскай нарадзе-семінары ідэалагічных работнікаў, якая адбылася нядаўна ў Мінску. У дакладзе сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін адзначыў ўзрастаючую ролю літаратуры і мастацтва ў фарміраванні светапогляду савецкага чалавека, яго маральных перакананняў, духоўнай культуры, зрабіў і сур'ёзныя крытычныя заўвагі.

«Тэатр імя Янкі Купалы,—сказаў А. Т. Кузьмін,—за апошнія гады абнавіў рэпертуар, яго спектаклі карыстаюцца поспехам. Але, на жаль, мы не можам назваць у рэпертуары вядучага тэатра рэспублікі значны і яркі твор на сучасную тэму, які працягваў бы і развіваў лепшыя традыцыі купалаўцаў. Няма ў гэтага калектыву і глыбокага па думцы, наватарскага па ўвасабленні спектакля аб рабочым класе, аб сённяшнім дні беларускай вёскі. Наўрад ці ў Міністэрстве культуры змогуць назваць такія творы і ў рэпертуары іншых тэатраў».

Гэтая справядлівая крытыка датычыць не толькі творчых калектываў тэатраў рэспублікі. Без актыўнага творчага ўдзелу пісьменнікаў, драматургаў тэатры не ўзбагацяць і не пашыраць рэпертуарныя далягляды сучаснай тэматыкай. Тут патрэбны агульныя творчыя намаганні і, відаць, арганізацыйныя захады. Стварыць значны, маштабны твор на сучасную тэму аб рабочым класе, жыцці сучаснай вёскі для тэатраў і тэлебачання, можа, пакуль што і не пад сілу аднаму, нават таленавітаму аўтару. Варта было б гэтую праблему абмеркаваць на секцыях драматургаў, празаікаў Саюза пісьменнікаў Беларусі разам з рэжысёрамі тэатраў. Можа, такая творчая гаворка аб тым, як увасобіць у мастацкі твор тыя галоўныя праблемы, якія сёння хвалююць грамадскасць, наблізіць нас да стварэння значнага твора на сучасную тэму, якога чакае партыя і народ. Пара ад прызнання слушнасці крытыкі, разумення свайго абавязку перад народам перайсці да практычнага вырашэння гэтай важнай праблемы.

Вялікі і пачэсны абавязак ускладае партыя на дзеячоў літаратуры і мастацтва,—трапным і вострым словам, вобразам натхняць працоўных на вырашэнне велічных задач нашага часу, выхоўваць у савецкіх людзей сапраўды грамадзянскую непрымірымасць да ўсякага роду антыграмадскіх праяўленняў, да носьбітаў чужых нам нораваў. У дакладзе А. Т. Кузьміна і ў выступленнях ідэалагічных работнікаў рэспублікі прыводзіўся рад прыкрых фактаў парушэння норм грамадскага жыцця з боку асобных людзей. Цярпімасць да такіх з'яў, абывацельскія адносіны да амаральных учынкаў, маўляў, мая хата з краю—інакш не назавеш, як «пошласцю бяздзеяння» (У. І. Ленін). Мы жывём у савецкай краіне і за ўсё ў адказе. Абавязак кожнага пісьменніка сваёй творчасцю змагацца з такімі з'явамі.

Нельга мірыцца і з праявамі парушэння норм жыцця ў творчым асяроддзі. Партыйная і грамадзянская патрабавальнасць да творцы павінны спалучацца з уважлівымі і беражлівымі адносінамі да кожнага творчага таленту.

Народ любіць і глыбока паважае сваіх пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, рэжысёраў, акцёраў, і гэта ўскладае вялікі абавязак на кожнага творцу—быць дастойным гэтай любові і даверу.

*ГОСЦІ МІНСКА*

# ПЕРШАЕ ЗНАЁМСТВА

На афішах — новыя для мінскіх слухачоў імёны: Раймонд Коўэн і Антыя Раэль. Два дні гэтыя музыканты гастралявалі ў сталіцы Беларусі. Сотні мінчан пазнаёміліся з выканаўчым майстэрствам таленавітага англійскага скрыпача і здольнай піяністкі. У першы дзень Раймонд Коўэн з вялікім поспехам выканаў Канцэрт для скрыпкі з аркестрам І. Брамса ў суправаджэнні Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР пад кіраўніцтвам Юрыя Яфімава. А ў панядзелак англійскі скрыпач разам з піяністкай Антыяй Раэль выступіў з сольным канцэртам. Яны выканалі санаты Бетховена, Равэля, Шумана, Пракоф'ева. Англійскіх музыкантаў вылучае высокая тэхніка, дакладнасць музычных вобразаў, сталае майстэрства.

Савецкім слухачам добра вядомы Лонданскі філарманічны аркестр, Каралеўскі балет Вялікабрытаніі, оперная трупа «Ковент-Гардэн», якія не раз выступалі ў СССР, а музыкантаў-выканаўцаў, бадай, апрача лаўрэата Другога конкурсу імя Чайкоўскага піяніста Джона Огдана, наша шырокая публіка амаль не ведае.

Карэспандэнт «ЛіМа» сустрэўся з Раймондам Коўэнам і задаў яму некалькі пытанняў.

— Містэр Коўэн, раскажыце, калі ласка, крыху пра сябе.

— Я нарадзіўся ў 1919 годзе ў Манчэстэры. Музыкай захапляўся яшчэ з дзяцінства. А сапраўднай, «прафесійнай» музыцы вучыўся ў Каралеўскім музычным коледжы ў класе Хенры Койджа. Ён, дарэчы, у свой час быў кіраўніком Берлінскага філарманічнага аркестра. У 1947 годзе я прыняў удзел у Міжнародным конкурсе скрыпачоў імя славутага венгерскага музыканта Карая Флеша, дзе атрымаў першую прэмію. (Дарэчы, гэта быў адзін з першых конкурсаў Карая Флеша, а пачаў ён праводзіцца ў 1945 годзе). З таго часу я быў салістам у многіх англійскіх аркестрах. Даводзілася і гастраляваць. Пабываў у ФРГ, Іспаніі, ЗША, Аўстраліі, Скандынавіі. Цяпер выступаю са сваёй жонкай піяністкай Антыяй Раэль.

— Гэта ваш першы прыезд у нашу краіну?

— Не, я ўжо бываў у Маскве ў 1959 годзе ў складзе Каралеўскага філарманічнага аркестра, канцэртмайстрам якога я ў той час працаваў.



Англійскі скрыпач Раймонд Коўэн.

— Цяпер часта гавораць пра розныя скрыпічныя школы...

— О, у вас сапраўды ёсць такая школа! У яе вельмі багатыя традыцыі. А ў нас, на жаль, ёсць толькі некалькі педагогаў высокай кваліфікацыі, дарэчы, у большасці, іншаземцы, і невялікая група скрыпачоў параўнаўча высокага класа. Аб традыцыях і казаць няма чаго — іх амаль няма. А калі няма традыцый, то няма і школы. Што датычыць наогул музычнага жыцця Англіі, мушу сказаць так. Яе цэнтрам з'яўляецца Лондан. Тут працуе пяць сімфанічных аркестраў. Добрыя аркестры ёсць у Манчэстэры, Ліверпулі, Глазга і іншых гарадах. У Лондане па-ранейшаму праводзяцца штогадовыя «Праменад-канцэрты», вечары ў Зале каралевы Лізаветы. І, як заўсёды, летам у Англіі многа гастралёраў — гэта музыканты самых розных краін.

— У праграме, з якой мы знаёміім вашых слухачоў, няма твораў сучасных англійскіх кампазітараў. Мы з Антыяй Раэль доўга выбіралі, якія сучасныя англійскія творы паказаць вашаму дасведчанаму слухачу. І... не знайшлі нічога, вартага ўвагі. Вядучыя кампазітары сучаснай Англіі, такія, скажам, як Б. Брытэн, больш захапляюцца музыкай для аркестра, хору, камернага ансамбля і амаль нічога не пішуць для скрыпкі і фартэпіяна. Творы ж менш вядомых англійскіх кампазітараў былі б для вашага слухача не вельмі цікавыя.

— І апошняе пытанне. Каго вы лічыце найвялікшым скрыпачом сучаснасці?

— Давіда Ойстраха! Не палічыце гэта «дыпламатычным» адказам. Гэта сапраўды вялікі музыкант!..

Першае знаёмства мінчан з раней невядомымі ім англійскімі музыкантамі адбылося. Пажадаем жа артыстам удалых гастроляў у іншых гарадах нашай краіны.

## ДРУГІ З'ЕЗД ТАВАРЫСТВА



Выступае І. Ф. Клімаў.

4—5 кастрычніка г. г. у Мінску праходзіў другі з'езд Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

У глядзельнай зале Рэспубліканскага Палаца прафсаюзаў сабралася больш як дзвесце дэлегатаў з усіх куткоў Беларусі. Яны абмеркавалі справаздачны даклад старшыні прэзідыума Цэнтральнага савета таварыства І. Клімава і справаздачу цэнтральнай рэвізійнай камісіі, якую зрабіла старшыня камісіі А. Канцавая.

З'езд абмеркаваў таксама пытанне аб заменах і дадатках у статуце таварыства.

Быў абраны новы склад Цэнтральнага савета таварыства і яго прэзідыума.

Старшынёй прэзідыума зноў абраны намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР І. Клімаў.

Са справаздачным дакладам на з'ездзе выступае старшыня прэзідыума таварыства І. Клімаў.

□

Падрабязна пра з'езд чытайце ў наступным нумары газеты.

## ФІЛЬМЫ ПРА РАБОЧАГА ЧАЛАВЕКА

Два дні ў Мінску праходзіў рэспубліканскі агляд-конкурс аматарскіх фільмаў, арганізаваны Беларускім рэспубліканскім саветам прафесійных саюзаў і Саюзам кінематаграфістаў БССР. На конкурсе былі навукова-пазнавальныя, дакументальныя і сюжэтныя кінастужкі аб жыцці прамысловых прадпрыемстваў, аб людзях працы.

У аглядзе прымалі ўдзел аматарскія кінастудыі прадпрыемстваў усіх абласцей. Першай прэміі ўдастоены кінааматары Магілёўскага завода «Электрарухавік» за фільмы «Побач з табой» і «Тэхнічная вытворчасць». Дзве другія прэміі журы прысудзіла кінастудыі Гомельскага палаца піянераў за фільм «Прапанова» і Магілёўскаму заводу «Строммашына» за фільм «Завод і тэхнічны прагрэс». Трэцюю прэмію атрымаў Мінскі аўтазавод за кінафельетон «Зубру на рогі».

## ДЭКАДА КНІГІ ГДР

У мінскім магазіне «Дружба» 5 кастрычніка адкрылася дэкада кнігі ГДР. З Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі для беларускіх кнігалюбаў паступіла звыш 500 назваў рознай літаратуры — прадукцыя 50 выдавецтваў братняй краіны.

Мінскіх чытачоў, напэўна, зацікавіць кніга «Буслы над балотамі», дзе сабраны апавяданні Я. Коласа, К. Крапівы, Я. Брыля, І. Шамякіна, В. Быкава і іншых беларускіх аўтараў у перакладзе нямецкіх пісьменнікаў.

Дэкаду нямецкай кнігі кароткім уступным словам адкрыў намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку А. Ф. Барушка. Цудоўна выдадзеныя мастацкія і палітычныя творы аўтараў ГДР, кнігі па розных галінах навукі і тэхнікі, мастацтву вельмі папулярныя ў працоўных Беларусі.

На адкрыцці дэкады кнігі ГДР у Мінску прысутнічалі артысты цырка ГДР, нямецкія інжынеры і студэнты, якія знаходзяцца ў сталіцы Беларусі.

# НА ПОЎНЫ РОСТ

Верасneўская — ВЕРАСНЁЎСКАЯ кніжка «Полымя»... У ёй — вершы з новай кнігі Кастуся Кірэенкі, раман Алеся Шашкова «Спытай сваё сэрца...», вершаванае апавяданне Ніла Гілевіча «А дзе ж тая крынічанька?», апавяданні Міколы Лупсякова, старонкі малдаўскай паэзіі, нарыс І. Быкоўскага «Балтыец Хведар Сакун»...

Гэтым — вершамі і прозай — мабыць, як звычайна, у першую чаргу зацікавіцца большасць чытачоў. А крытыкай — пасля. І ўпаўне зразумела. У крытыкі — свая спецыфіка, ёй цяжка спаборнічаць у чытабельнасці з паэзіяй і прозай, у яе меншая аўдыторыя чытачоў. Але ж хіба не шкада, што лепшыя, цікавейшыя працы нашых крытыкаў часта застаюцца па-за ўвагай нават многіх тых чытачоў, што стала цікавяцца літаратурай? І часам, чытаючы матэрыялы, змешчаныя ў раздзеле крытыкі «Полымя», хочаш, каб не абміналіся нікім з чытачоў і яны, асабліва, калі артыкулы крытыкаў, даследчыкаў літаратуры даюць добрыя ўрокі разумення мастацкага слова, паказваюць шляхі развіцця літаратуры, раскрываюць таямніцы красы і творчасці.

Прынамсі, пільнай чытацкай увагі заслугоўваюць надрукаваныя сёлета ў «Полымі» артыкулы Дзмітрыя Бугаёва («Андрэй Шэмет, яго сябры і праціўнікі»), Уладзіміра Юрэвіча («Чалавек буйным планам»), Міхася Яроша («Жывыя крыніцы стылю»), Віктара Каваленкі («Праца і паэзія»), а таксама і змястоўныя рэцэнзіі Рыгора Бярозкіна (разгляд кнігі А. Грачанікава «Круглая плошча»), Серафіма Андраюка (размова пра кнігу У. Караткевіча «Чазенія»), Паўла Місько, Сяргея Грахоўскага, Міколы Ермаловіча...

У дзевятым нумары «Полымя» змешчан артыкул Міколы Арочкі «Дзень нараджэння — кожны дзень», прысвечаны паэзіі Максіма Танка. Артыкул М. Арочкі—цікавы, змястоўны, пазначаны свежым падыходам да паэзіі. Прываблівае даходлівасць крытычнай размовы, эмацыянальная насычанасць аналізу, жывая і свабодная кантактнасць унутранага свету крытыка з танкаўскай паэзіяй, прываблівае і ўнутраная сюжэтнасць артыкула — паслядоўнае з'яднанне думак, уражанняў і назіранняў у адзіны духоўны комплекс, якім характарызуецца паэтычны свет Максіма Танка.

У размове аб стане і задачах крытыкі, што вядзецца зараз на старонках «ЛіМа», гаварылася ўжо — і зусім слушна—аб тым, што ў нас яшчэ слаба распрацоўваюцца многія важныя пытанні мастацкай творчасці, у тым ліку і праблемы стылю. Дык вось: у артыкуле Міколы Арочкі разглядаецца менавіта **стыль** Танка.

Як слушна адзначае М. Арочка ў самым пачатку свайго артыкула, «праблема стылю цікавая тым, што яна высвечвае на поўны рост буйную творчую асобу, грані таленту, кут пісьменніцкага бачання жыцця».

Менавіта так, на поўны рост і імкнецца аўтар артыкула паказаць паэзію Танка, даючы ёй абагуленую характарыстыку. Паэзія Танка раскрываецца ў артыкуле як выдатная паэтычная з'ява са складанай і тонкай мастацкай структурай, з шырокімі жыццёвымі і творчымі даляглядамі. Даследчык глыбока разумее яе грамадскую і эстэтычную сутнасць, яе мастацкае значэнне, ён смела і ўпэўнена пранікае ў свет паэта.

Паэзія М. Танка раскрываецца перад намі ў многіх «вымярэннях». Раскаванасць паэтычнага мыслення, напружанасць думкі і паўната эмоцый, разнастайнасць адлюстраваных жыццёвых з'яў, шырыня погляду на свет, гуманістычны пафас, трывалая сувязь з роднай глебай і народным светаўспрыняццем — усе гэтыя якасці паэзіі Танка паказаны ў артыкуле не ў знешніх адзнаках, а ў глыбіннай сувязі, у сінтэзе натхнення, светапогляду і высокай мастацкай культуры.

М. Арочка перачытвае паэзію М .Танка ва ўсеўзбраенні сучасных дасягненняў літаратуразнаўчай навукі аб тэорыі стылю і набыткаў нашага танказнаўства. Гэта дапамагае яму шмат у чым паглыбіць і дапоўніць як разуменне ўсёй творчасці М. Танка, так і асобных твораў. Плённа засвоіўшы працы У. Калесніка, Р. Бярозкіна, Д. Бугаёва і В. Рагойшы пра творчасць Танка, крытык неаднойчы праніклівa заглыбляецца ў мікраструктуру танкавай вобразнасці і тонкім аналізам даводзіць свае высновы. Гэтая аналітычнасць добра яднаецца з эмацыянальнымі адносінамі крытыка да твораў М. Танка — у аналізе М. Арочкі адчуваецца і яго захапленне выдатнай паэзіяй, любоў да яе, і натхнёнасць чытацкага сумеражывання. Асабліва запамінаецца размова пра шэдэўр танкаўскай гуманістычнай лірыкі «Ave Maria», гэты, паводле слоў крытыка, «тонкага разца скульптурна-гранёны кавалак, абламаны з шэрай, цяжкай пароды жыцця». Верш перачытаны ўзнёсла, натхнёна, глыбока.

У артыкуле з розных бакоў разглядаецца танкаўская канцэпцыя свету. Размова ідзе пра грамадзянскае аблічча паэта і гуманістычную накіраванасць яго твораў, пра формы эстэтычнага асэнсавання жыцця ў паэзіі М. Танка, пра яе сувязі з жыццём грамадства. Даследчык спыняецца на такіх пытаннях, як змест і характар лірычнага самавыяўлення ў Танка, узаемаадносіны творчай задумы і псіхалагічнага, жыццёвага вопыту, багацце і разнастайнасць мастацкіх формаў, вызначальныя стылявыя тэндэнцыі, прырода і змест паэтычнай умоўнасці, сучасная метафорыка Танка, танкаўскі верлібр... І амаль заўсёды М. Арочка вядзе размову з добрым разуменнем паэзіі і развітым адчуваннем прыгожага. Ён бачыць вытокі таленту паэта і спрабуе акрэсліць (даволі пераканаўча) перспектывы яго далейшага развіцця, уважліва разглядае цяжкасці, якія даводзіцца адольваць Танку, не абмінае і не ўтойвае паэтавы няўдачы, творчыя спады.

Большасць высноў даследчыка, як ужо адзначалася, абгрунтоўваецца глыбокім аналізам. Але — не ўсе, не заўсёды. У прыватнасці, не ва ўсім пераканаўчай здаецца размова пра аўтабіяграфізм Танка, пра «тры тыпы лірычнага «я». І справа не толькі ў агульных тэарэтычных пасылках, якія вымагаюць удакладненняў (як сінтэзуецца ў лірычным «я» сваё і чужое, як лірычныя перажыванні «праецыруюцца на асобу аўтара»), але і ў саміх «прыватнасцях» аналізу. Крытык, які на многіх старонках выявіў сваё глыбокае разуменне прыроды паэзіі, раптам пачынае даволі просталінейна вытлумачваць вершаваныя радкі.

Вось цытуе ён, напрыклад, наступныя словы паэта: «Амаль развучыўся смяяцца І пець, узброіў свой нос акулярамі...». «Але ж з паэтам не суадносіцца ні першае, ні другое. Ужо адным гэтым аўтар пацвярджае, што ён умее смяяцца», — пярэчыць М. Арочка. Пярэчанне нібыта і правільнае, але ўсё ж нешта пры гэтым спрашчаецца. Нельга, мабыць, унутраны жэст, да таго ж складана адцэнены іроніяй (ды — і самаіроніяй), што трапна паказана самім жа аўтарам артыкула, вось так, знешне, «у лоб» праецыраваць на асобу паэта.

Часам, хутчэй за ўсё ненаўмысна, М. Арочка паказвае творчы працэс залішне рацыянальным. «Два апошнія словы, — піша ён пра канцоўку верша «Ave Maria» — знарок падкрэслены рыфмай (малітва — бітву) — яны вырастаюць тут да аб'ёму цэнтральных паняццяў, у якіх скандэнсаваўся ўвесь унутраны драматызм твора». Падкрэслены **знарок!** Мабыць, дакладней будзе, здаецца, невыпадкова... Або — **нібы** знарок.

Нарэшце, у артыкуле М. Арочкі (а ў ім, трэба меркаваць, скандэнсавана будучая кніга) творчасць Танка не суадносіцца з іншымі з'явамі сучаснай паэзіі. А супастаўляльны аналіз, безумоўна, узбагаціў бы даследаванне.

...У адной тэарэтычнай працы пра стыль ёсць трапнае і цікавае разважанне, якое стасуецца і да артыкула М. Арочкі пра стыль Максіма Танка: «Мы спасцігаем яго (стыль) звычайна пачуццём, або, дакладней, мастацкай думкай, падобнай на тую, якая яго спарадзіла, але толькі не такой актыўнай. Гэта думка дрэмле ў кожным з нас як здольнасць або схільнасць і абуджаецца ўсякі раз, сустракаючыся з сапраўдным творам мастацтва. У гэтым сэнсе стыль, як правіла, і «захапляе» нас, уцягваючы нас у адзінае мастацкае перажыванне... Наша разумовая здольнасць, рацыяналістычны падыход, безумоўна, таксама ўдзельнічаюць у гэтым успрыняцці, але не ў сваёй уласнай якасці, а разам, сукупна з іншымі здольнасцямі душы, і толькі навуковы разгляд — тэарэтычны аналіз — аддзяляе іх у самастойны інструмент і абавязвае нас зірнуць на гэты прадмет цвяроза, збоку». (П. Паліеўскі, «Пастаноўка праблемы стылю»).

У артыкуле М. Арочкі «Дзень нараджэння — кожны дзень» менавіта так і паядналіся пачуцці і думка, погляд на паэзію Танка і знутры, і «збоку», і гэта дало плённыя вынікі.

У перспектыве ўсяго разгляду творчасці Танка, зробленага М. Арочкам, гэта канцоўка ўспрымаецца як змястоўная і важкая.

**Лаўрэн МІГАЙ.**

# ТЭМА НЕ ДРУГАРАДНАЯ

У ДЗЕВЯТЫМ нумары часопіса «Неман» грунтоўна прадстаўлены проза і паэзія, публіцыстыка і мастацтва... Змешчаны, у прыватнасці, заканчэнне раманаў Івана Мялы «Спакушэнне Гарпіны» і Жоржа Сіменона «Мегрэ і вінагандляр», пераклады вершаў Сяргея Грахоўскага «Усе мы—радня», якімі адкрываецца кніжка.

Аднак хочацца пачаць гаворку менавіта аб тым, што асабліва ўсхвалявала ў часопісе надзённасцю ўзнятай праблемы, знайшло найпершы водгук у сэрцы. Прывядзём такі вось урывачак з маленькай нататкі Т. Фралоўскай «Па грыбы»:

«Паход за грыбамі—гэта і рамантыка, і паэзія, і радасць удачы, і сустрэча са светам жывым, і ў той жа момант зусім незвычайным... Вярнуўся, а цябе ўжо кліча туды зноў, і ў тваім уяўлечні ўзнікае то вясёлы бярозавы лясок, то прахалодная ціша зараслага кустамі яру, то бойкі хвойнічак на ўзгорку і пошум дрэў, і захапляючы птушыны гоман, і хвалюючы водар грыбных месцаў».

Наўрад ці знойдзецца чалавек, якога пакіне абыякавым прыгажосць асенняга лесу! І, відаць, не так тыя грыбы, як сустрэча з прыродай сам-насам, магчымасць падыхаць настоенымляснымі пахамі гаючым паветрам, засяродзіцца, паразважаць пад ціхі пошум гаю, адпачыць, як кажуць, душой і целам—вось што кліча нас у лес. Ды гэткая бяда—зазірнеш праз год, праз два ў запаветную дуброву і не паверыш вачам: няма яе, пуста, адны вырубкі. Наведаеш часам прыгожы хвойнічак ля горада і абурышся да глыбіні душы: сярод зламаных, знявечаных залатаstволых сасонак — смецце, горы смецця, якое таропка звалена на купкі блакітных званочкаў. І няма таго раўчука, што струменіў у нізіне... А тут жа нядаўна гулялі нашы дзеці, якіх прывозілі з горада на ўлонне прыроды. І само па сабе ўзнікае балючае вострае пытанне: чаму ў нас так не шануюць прыроду, чаму вырастаюць людзі, чэрствыя да яе? Ці ж не таму, што мы, дарослыя, нярэдка яшчэ праходзім міма гэтай прыгажосці, болей таго, шкодзім ёй, падаём дрэнны прыклад сваім дзецям?

Дарэчы, у гэтай кніжцы часопіса ў артыкуле Веры Вярнігор «Пяцігадовы грамадзянін» прыводзіцца такі пераканаўчы прыклад. На тэрыторыі аднаго дзіцячага сада пасадзілі кветкі. Цудоўныя кветкі: цюльпаны, півоні... І дзеці вельмі бераглі іх. Ні адна кветка не была пашкоджана, абламана. І як жа былі ўражаны яны, калі ўбачылі, як новая выхавацельніца наступае, бяздумна топча гэткія дарагія для іх кветкі...

Але і гэты выпадак можна лічыць нават бяскрыўдным у параўнанні з многімі іншымі, якія дзеці назіраюць часта ў жыцці... І тут, не паглыбляючыся ў маштабныя пытанні выхавання, мы можам прыгадаць словы Прышвіна аб прыродзе: «абараняць прыроду — значыць абараняць Радзіму».

Мне думаецца, што менавіта з такой грамадзянскай пазіцыі напісаў сваю паэму «Дазорная галінка» («Неман», № 9) Ігар Шклярэўскі. З першых жа радкоў аўтар уводзіць нас у цудоўны знаёмы свет роднай прыроды, са шчырым захапленнем, шчасліва падораным людзям з маленства, расказвае пра квяцісты луг, зачаравана пералічвае назвы розных кветак, кузюрак... Магчыма, гэтае захапленне на першы погляд здасца камусьці дзівацтвам, непатрэбшчынай. Што ж, аўтар гатовы паспрачацца, скрыжаваць шпагі з чалавекам, цынічна абыякавым да прыроды роднага краю. Голас яго гучыць гнеўна і абурана:

Эй, нищий, постой на обрыве
и пользу найди в красоте,
равно, как в осине, как в сливе,
в смородине и в лебеде.
Всмотрись в эту дымную воду,
пойми ее детскую речь,
оплакивать рано природу,
но самое время беречь!

І ўсё ж часам аўтару цяжка стрымаць свае пачуцці, пакутлівую горыч:

И потянуло в детство—в черный бор,
такой богатый клюквой и грибами!
Я перешел ручей и за холмами
пустое небо глянуло в упор...
Здесь токовать должны перепела
и радость белкой прыгать в поднебесье,
но сократила острая пила
мою главу веселую о лесе...

На вялікі жаль, сярод нас пануе небяспечная думка: прырода вечная і багацці яе невычэрпныя... Але ж ужо ў нашы дні мы становімся сведкамі, як мялеюць і знікаюць рэкі, знішчаюцца стогадовыя дубровы і яе жыхары. Парушаецца так званая раўнавага ў прыродзе. А гэта можа прывесці, па сцвярджэнні вучоных, да катастрафічных вынікаў—эрозіі і збяднення краю.

Вось чаму недастаткова простага захаплення прыродай, пасіўнай сузіральнасці — трэба дзейнічаць, дзейнічаць неадкладна. Так гаворыць паэт.

Какими жизнестойкими словами,
как передать свою любовь к лесам
вам—настоящим и грядущим дням?
Вдруг шорох, голос: «Передай лесами!»
Откуда голос? Рядом—над рекой—
маячил бор, пока что не подсочный.

Кампазіцыя паэмы «Дазорная галінка» лаканічная і вельмі простая. Думка, якая праводзіцца ў ёй,—берагчы родную прыроду—такая агульназразумелая і важкая, што не патрабуе нейкіх асаблівых эмацыянальных хадоў, каб паказаць адказнасць чалавека перад сваімі нашчадкамі за лёс лясоў і рэк, звяроў і птушак.

Пасуе да паэмы Ігара Шклярэўскага і апавяданне Уладзіміра Караткевіча «Былі і ў мяне мядзведзі». Непасрэдны, шчыры і лірычна-мяккі расказ пра асветленае блізкасцю да жывёлін дзяцінства, пра тое, як гэта дабратворна адбілася на характары героя апавядання, не можа не ўсхваляваць чытача. Аўтар уздымае страсны голас у абарону звяроў, што «ўмеюць помніць дабро»—супраць спартыўнага, недарэчна бяздумнага палявання на іх. Ён нібы далучаецца да слоў вядомага пісьменніка-папулярызатара, кандыдата біялагічных навук Ігара Акімушкіна, які ў кнізе «Трагедыя дзікіх жывёлін» піша: «Я ўпэўнены, пройдзе нямала часу, і ўсё чалавецтва будзе лічыць так званае спартыўнае паляванне ганебнымі забабонамі дзікасці, а забойства без патрэбы жывёліны будзе карацца законам амаль гэтак жа строга, як забойства чалавека».

Тэма аховы прыроды—не другарадная... Творы, змешчаныя на старонках часопіса «Неман», прымусяць многіх прызадумацца: ці ўсё мы робім для таго, каб захаваць прыгожы свет прыроды для нашчадкаў.

**Яўген КАРШУКОЎ.**

# ВЫЙШАЎ У СВЕТ

# НЕ ТОЛЬКІ ГІСТОРЫЯ З ВАЙНЫ

ГЭТАЯ аповесць чытаецца адразу, як кажуць, у адзін прысест. І не таму, што яна невялікая па аб'ёме. Яна бярэ чытача ў палон з першых старонак і не выпускае з нервовага, душэўнага напружання да канца. Яна не адпускае цябе нават пасля прачытання, бо трэба яшчэ «шмат у чым разабрацца... адпаведна свайму светапогляду, свайму позірку на вайну, на гераізм, на свой абавязак перад сумленнем і перад гісторыяй...»

Мы маем на ўвазе новую аповесць Васіля Быкава «Абеліск», надрукаваную ў верасьнёўскай кніжцы «Маладосці».

Пісьменнік і тут застаецца верным сам сабе. Нават па знешніх адзнаках «Абеліск» — твор чыста быкаўскі. Аповесць сціслая, маланаселеная, сюжэтна-напружаная і — звычнае для Быкава азначэнне — «ваенная». І гэтак жа, як і яго ранейшыя творы, яна вызначаецца драматычнасцю сітуацый, высокім напалам пачуццяў і страсцей, абавязку і подзвігу, тонкім псіхалагічным аналізам людскіх учынкаў і спраў, актыўным сцвярджэннем дабра, сумленнасці, справядлівасці, чалавечай годнасці.

У аснову твора пакладзена «гісторыя з вайны». Цяпер, праз шмат гадоў пасля таго, як на нашай зямлі адгрымелі апошнія грымоты Вялікай Айчыннай, гэтую гісторыю расказвае журналісту (ад яго імя напісана аповесць) пенсіянер, былы настаўнік Ткачук. Сустрэліся яны на пахаванні знаёмага работніка на ніве народнай асветы Паўла Міклашэвіча ў вёсцы Сяльцо. Па дарозе дадому, у горад, Ткачук і расказвае свайму спадарожніку пра падзеі, якія адбыліся ў Сяльцы ў гады вайны і да якіх меў самае непасрэднае дачыненне настаўнік-нябожчык. Што ж гэта за падзеі?

У памятным трыццаць дзевятым прыехаў у заходнебеларускую вёску Сяльцо малады настаўнік Алесь Іванавіч Мароз. Палюбіўся, па душы прыйшоўся ён мясцовым людзям, а найболей — сваім вучням, з якіх «рабіў не выдатнікаў вучобы, не паслухмяных зубрылак, а найперш — чалавекаў». Тады, у перадваенныя гады, пазнаёміўся і нават падружыўся з Марозам таксама малады загадчык райана Цімох Цітавіч Ткачук. Не ва ўсім пагаджаўся ён з Марозам, але — паважаў яго, падтрымліваў. Падтрымаў і тады, калі сяльцоўскі настаўнік узяў да сябе — ад бацькі-п'яніцы — малога Паўліка Міклашэвіча.

Неўзабаве — вайна. Ужо на трэці дзень у гарадку паявіліся фашысцкія ўсюдыходы. Спрабаваў Ткачук прабрацца на ўсход да сваіх, ды не змог, застаўся ў тыле ворага. Ён не вагаўся, што рабіць — пайшоў у лес. З іх, тутэйшых савецкіх работнікаў, і з групы вайскоўцаў-акружэнцаў, узнік партызанскі атрад. Былы загадчык райана стаў яго камісарам. А Мароз? Мароз па-ранейшаму вучыў дзяцей — з дазволу акупантаў. Не, ён не стаў здраднікам. Ён, як і да вайны, вучыў дзяцей быць «чалавекамі» і адначасова быў партызанскім сувязным і разведчыкам.

Школай Мароза і ім самім пачаў настырна цікавіцца паліцай Хведар Гагун, па мянушцы Каін, нават учыніў вобыск. Шасцёра хлапцоў-падлеткаў вырашылі заступіцца за свайго настаўніка — знішчыць здрадніка. Уначы яны падпілоўваюць лагі мастка, па якім Каін павінен быў раніцою ехаць ад бацькі ў горад. Аперацыя прайшла не зусім удала, хлопцы трапілі ў лапы ворага. Марозу ўдалося ўцячы ў лес, да партызан. Аднак, даведаўшыся, што акупанты абяцаюць адпусціць хлопцаў, калі з'явіцца іх настаўнік, Мароз самавольна пакідае ўначы лагер і ідзе ў варожае логава. Праз некалькі дзён падлеткі і іх настаўнік былі павешаны. Цудам уратавацца — цяжка параненаму — удалося (дзякуючы Марозу) аднаму Паўліку Міклашэвічу.

На гэтым «гісторыя з вайны» не канчаецца. Сяльцоўскую школу ўзначаліў пасля вайны Міклашэвіч — дастойны пераемнік Мароза. Непадалёк ад школы па ініцыятыве Міклашэвіча быў збудаваны сціплы абеліск з імёнамі пяці трагічна загінуўшых падлеткаў. А вось імя іх настаўніка паявілася на абеліску толькі праз многа гадоў. Чаму? У архівах паліцыі і СД знайшоўся рапарт Хведара Гагуна вышэйшаму начальству аб тым, што ў часе аперацыі праследавання паліцыя захапіла «завадатара мясцовай партызанскай банды Алеся Мароза». Гэтаму фашысцкаму міфу памаглі і партызаны: камісар Ткачук і камандзір Селязнёў, спешна рыхтуючы рапарт штабу брыгады аб сваіх стратах, супраць прозвішча Мароза напісалі: «Папаў у палон». От таму «і ўсчалася тая шарада» вакол сяльцоўскага настаўніка. Толькі дзякуючы намаганням Міклашэвіча імя Мароза паявілася, урэшце, на самаробным шэрым абеліску...

Расказа пра тое, як Алесю Іванавічу Марозу было вернута яго чыстае, сумленнае імя, няма ў аповесці, як няма ў ёй, па сутнасці, і таго, хто гэта зрабіў, — Паўла Міклашэвіча. Праўда, на пачатку мы крыху знаёмімся з ім, запамінаем яго стомлены, хваравіты твар, хударлявую, з вострымі хлапечымі лапаткамі постаць, але жыццё і справы яго ўгадваюцца ў святле жыцця і спраў яго-нага настаўніка Мароза. Зрэшты, гэта мусіць, невыпадкова, бо аповесць, нам думаецца пра іншае.

За апошнія гады, нягледзячы на няўмольнасць часу і нетрывaласць чалавечай памяці, адшуканы, выяўлены, узноўлены, высечаны на граніце помнікаў і абеліскаў сотні і тысячы імёнаў безыменных герояў вайны. Аповесць Васіля Быкава — не ілюстрацыя да адной са старонак гэтых пошукаў. Яе змястоўнасць і грамадзянскае гучанне куды большае і шырэйшае. Чытаеш «Абеліск» і неаднойчы вяртаешся ў думках да найвялікшай трагедыі, якую перажыў у гады фашысцкай навалы наш народ, і зноў і зноў спыняешся ў здзіўленні перад веліччу і сілай духу яго лепшых сыноў і дачок; і слупянееш, жахаешся пры сустрэчы з подлай нікчэмнасцю здраднікаў, якая заўсёды абарочваецца крывавай, звярынай злачыннасцю; і з трывожным, сардэчным непакоем думаеш пра тое, ці ўсё зрабілі мы, жывыя, каб памяць загінуўшых была свяшчэннай, урэшце — ці жывём мы — я, ты, ён — так, як належыць жыць чалавеку, як завяшчалі нам жыць тыя, да каго мы прыходзім ва ўрачыстыя дні, каму кладзём кветкі на іх заўчасныя, вядомыя і невядомыя магілы?..

Ён быў сапраўдным настаўнікам, Алесь Іванавіч Мароз. Ён ведаў, што не ўратуе сваіх любых хлапчукоў, ён нават не прызнаўся ім, што прыйшоў сюды, у рукі ворагаў, сам. «Трэба» — толькі адно слова прамовіў Мароз, калі стараста Бохан шапнуў яму, каб не пачулі паліцэйскія: «Не трэба было, настаўнік». Ён застаўся са сваімі вучнямі да канца, і тое, «што з імі быў іхні настаўнік, іх заўсёдны Алесь Іванавіч, вядома, аблягчала незайздросны іх лёс». Хіба ён вучыў іх чаму-небудзь іншаму, а не веры ў чалавека? І хіба не подзвіг здзейсніў гэты, урэшце, звычайны вясковы настаўнік?

Коля Барадзіч, Паўлік Міклашэвіч, блізняты Астап і Цімка Кажаны, Коля і Яўген Смурныя... Старэйшаму — пад васемнаццаць, малодшаму — трынаццаць. Нямецкі грузавік кульнуўся на падпілаваным імі масціку, аднаго немца нават задушыла — трапіў пад борт. Больш хлопцы не паспелі зрабіць нічога. Мусіць подзвіг іх вымяраецца куды большымі меркамі, чым той выпадкова загінуўшы адзін гітлераўскі салдат.

Міклашэвіч турбуецца, каб ушанаваць памяць сваіх замучаных сяброў, змагаецца за тое, каб на абеліску значылася і імя іх настаўніка. А Ткачук? Ён жа ўсё ведае. Сам пасылаў у штаб брыгады той рапарт аб палоне. Чаму ж тады ён не прыйшоў на дапамогу Міклашэвічу? Цяпер ён абураецца, нават парываецца вылезці з машыны, каб не сядзець поруч з гэтым «душэўна слепаватым» загадчыкам райана Ксяндзовым. А колькі гадоў назад? Можа, ён таксама быў «душэўна слепаватым»?

Міклашэвіч у свой час прасіў і журналіста, з чыіх вуснаў мы пачулі сяльцоўскую гісторыю, памагчы разабрацца ў лёсе Мароза. Той абяцаў памагчы, але ў мітульзе будзённых клопатаў забыўся на сваё абяцанне. І вось цяпер Міклашэвіча няма, і яго-ная заўчасная, раптоўная смерць моцна ўразіла нашага апавядальніка, ён адчуў раптоўны намер паехаць на пахаванне. «Я спазняўся, адчуваў гэта, перажываў і кляў сябе за ляноту, душэўную чэрствасць. Думалася надзіва пакаянна з нейкай самакрытычнай бескампраміснасцю; ніякія мае ранейшыя прычыны не здаваліся цяпер слушнымі, ды і наогул — ці былі якія прычыны? З такой медзведзяватаю разваротлівасцю нядоўга было дашчэнту пражыць адведзеныя табе гады і нічога не зрабіць з таго, што, можа, толькі і магло скласці гонар твайго жыцця. Дык прападзі яна пропадам, тая нікчэмная мітусня дзеля бясконцага, ненаежнага дабрабыту, калі праз яе застаецца ўбаку самае важнае. Мусіць, тым самым абіраецца і абясцэньваецца ўсё жыццё, якое толькі здаецца аўтаномным, адасобленым ад іншых людскіх жыццяў, скіраваным па тваім, асабістым кірунку. На самай жа справе, як гэта не сёння заўважана, калі яно і папаўняецца чымсь значным, дык гэта разумнаю добрасцю і клопатамі аб іншых — блізкіх ці хоць бы далёкіх табе людзях, якія маюць патрэбу ў гэтым тваім клопаце. Аддаць, а не ўзяць або адчуць задаволенасць аддаючы — як неахвотна і спазнела прыходзіць чалавек да гэтай не новай і такой зайздросна простай высновы...»

Дык, значыць, яшчэ сапраўды трэба «шмат у чым разабрацца...»

Гэтымі словамі заканчваецца аповесць. І чытач, несумненна, разбярэцца. Ён разбярэцца і не ўсё прыме на веру ў развaжаннях Ткачука, ад якіх «нясло звычайнай старэчай пахвальбой» і, мы б дадалі, юначай катэгарычнасцю і максімалізмам. Выклічуць пярэчанне чытача і словы Мароза: «Але каторым патрэбна вінтоўка, каб страляць у немцаў, а каторым — каб перад сваімі выпендрывацца. Але ж перад сваімі зброяй фарсіць куды больш бяспечна ды і прымяніць яе можна беспакарана, вось і знаходзяцца, што ідуць у паліцыю», — канечне ж, здраднікі-адшчапенцы ішлі ў паліцыю зусім не для таго, каб «перад сваімі зброяй фарсіць». Што гэтак, пацвярджае і трагічны лёс самога Мароза і яго-ных вучняў. Разбярэцца чытач і ў філасофіі Ксяндзова, які «даўно і моцна быў у палоне свае прадузятасці».

Што ж датычыць пісьменніцкага бачання, адчування і ўспрыняцця людзей і жыццёвых з'яў (прыгадаем хоць бы сцэны памінак і ў чайной, сустрэчу і гамонку падарожнікаў з будзілавіцкім дзядзькам), дык тут усё надзвычай дакладна, трапна і жывапісна, нішто не выклікае сумнення ў жыццёвай верагоднасці і праўдзівасці. Адзінае, за што можна папракнуць пісьменніка, дык гэта за тое, што пачатак аповесці, нам падалося, напісаны крыху вялавата, яму нестае характэрнага для пісьменніка дынамізму і мускулістасці пісьма.

Нягледзячы на гэта, «Абеліск», паўторым, чытаецца з неаслабнай увагай і цікавасцю, дае добры штуршок думцы і пачуццю. Таму яшчэ раз хочацца адаслаць чытача да дзевятага нумара часопіса «Маладосць».

**Мікола ГІЛЬ.**

## НА ЎСПАМІН ПРА БЕЛАРУСЬ

БРЭСЦКАЯ ФАБРЫКА СУВЕНІРАЎ ПРАПАНУЕ



«Вяселле». Аўтар — В. Гаўрылюк.



«Ханеісты-матрошкі»



«Ханеісты»



Падсвечнікі.



«Смага»



Аўтаручкі. Аўтар Я. Люблеў.

Фота Э. Трыгубовіча.

нальных музычных форм. Не сакрэт, што ў глядзельнай зале яшчэ сядзіць слухач, які з цяжкасцю ўспрымае нязвыклыя для вуха гукавыя спалучэнні ці «неоперныя» мізансцэны. Калі працаваць з аглядкай на такіх кансерватыўных слухачоў, не зробіш нічога жывога, па-сапраўднаму цікавага, таго, што чакае ад нас большасць у зале—людзі 70-х гадоў нашага стагоддзя, са складанымі характарамі і глыбокімі эстэтычнымі патрабаваннямі.

Пра многія з гэтых праблем наш калектыў пасля сёлетніх гастроляў у Маскве думае вельмі сур'ёзна, робячы практычныя высновы для сваёй дзейнасці.

Натуральна, новы твор амаль заўсёды выклікае спрэчкі, розныя, часам супрацьлеглыя думкі, ацэнкі. І гэта вельмі добра, бо дапамагае ў далейшай дзейнасці. Дапамагае і творчаму развіццю, росту.

Пад словамі «сучасны оперны спектакль» мы, рэжысёры і артысты, маем на ўвазе той выпадак, калі опера хвалюе нас не толькі надзённай тэмай, а і сучаснасцю яе трактоўкі, калі грамадзянскі пафас, ідэйна-мастацкі змест твора не ілюструюць, а раскрываюць дух сваёй эпохі і ўнутраны свет чалавека гэтай эпохі.

Некалькі слоў пра нашы бліжэйшыя прэм'еры. Тэатр пазнаёміць гледачоў са спектаклямі «Пікавая дама» і «Фаўст» — творамі, якія заўсёды застаюцца сучаснымі. Зразумела, усё залежыць ад таго, з якіх філасофскіх і эстэтычных пазіцый падысці да іх сцэнічнага вырашэння. Работа над гэтымі операмі надзвычай сур'ёзная і адказная. І нялёгкая. Хаця б таму, што іх сцэнічная гісторыя «абрасла» традыцыямі, штампамі. Сапраўды, цяжка назваць оперны тэатр, у рэпертуары якога няма гэтых твораў. Безліч пастановак, безліч пастановачных канцэпцый... І, разам з тым, кожны раз з хваляваннем бярэш у рукі партытуры гэтых опер—кожны раз іх музыка падказвае новыя нязведаныя шляхі.

Наш калектыў працуе, як і заўсёды, у садружнасці з беларускімі кампазітарамі. Галоўны дырыжор тэатра Кірыл Ціханаў і рэжысёр Сямён Штэйн разам з Яўгенам Глебавым шукаюць найбольш яркую рэдакцыю яго новай оперы «Твая вясна», прысвечанай жыццю савецкай моладзі. Яўген Аляксандравіч — кампазітар сучаснага творчага почырку. Работа з ім прыносіць шмат цікавага.

Рашэнні XXIV з'езда КПСС у галіне ідэалогіі ўскладаюць на савецкае мастацтва адказныя і высакародныя задачы. Наш тэатр будзе прыкладаць намаганні, каб сродкамі working опернага і балетнага мастацтва дапамагчы партыі ў ідэйна-эстэтычным выхаванні нашага сучасніка.



Сцэна са спектакля: цар Дадон (В. Чарнабаеў) і ключніца Амелфа (Л. Галушкіна).
Фота Ул. КРУКА.

гарцуе на цацачных коніках. Смешнае бутафорскае войска выпраўляецца ў паход... Так канчаецца першы акт.

Парадыйны музычны прыём дыскрэдытацыі вобразаў і сітуацый дасціпна трактуецца ў сцэнічным вырашэнні оперы мастаком і рэжысёрам: мы ўпаміналі ўжо аб царскім троне, ператвораным у ложак... Гарматы Дадонавай арміі (II акт), павернутыя на шацёр царыцы, таксама ператвараюцца ў зручную пасцель-канапу.

Здзекуючыся з Дадона, Шамаханская царыца завязвае яму, як бабе, хустачку, прыгаворваючы:

> **Шлем долой, а по височкам**
> **Мы подвяжемся платочком...**

І як жа недарэчна выглядаюць цяпер ратнікі Дадонавага войска, якія ўсе безагаворачна памянялі шлемы на бабскія хустачкі...

Амаль царыцай у адсутнасці Дадона паводзіць сябе з народам ключніца Амелфа. Але гэта вельмі важная і пыхлівая «амаль царыца» спрытна лускае семкі, час ад часу выплёўваючы шалупінне цераз плячо...

Масавыя сцэны ў спектаклі ўзнікаюць вельмі натуральна. Шматгранныя па адценнях настрояў, гэтыя сцэны ствараюць вельмі музычную атмасферу спектакля. Рэжысёр амаль заўсёды вылучае своеасаблівага запявалу або двух з найбольш выразных удзельнікаў хору.

Узаемаразуменне паміж рэжысёрам і артыстамі хору—поўнае. У «Залатым пеўніку» цудоўны харавы калектыў мінскага тэатра дэманструе высокае прафесійнае майстэрства. Менавіта хор пад кіраўніцтвам хормайстраў А. Кагадзеева і Г. Луцэвіч у тонкім, разумным і чулым пранікненні ў музыку, у вакальным гучанні і сцэнічных паводзінах цалкам даносіць усе адценні, фарбы стылявых асаблівасцей оперы. Часам нават аркестру хор задае патрэбны тон, інтанацыю, часам супакойвае яго імкненне насыціць гучнасцю харавыя нумары, прапануе больш дакладную інтэрпрэтацыю музыкі.

Дырыжор К. Ціханаў, дабіваючыся выдатнай прафесійнай дысцыпліны ў рабоце з аркестрам, мог бы вырашаць цяпер і больш складаныя задачы, у прыватнасці, яшчэ больш канкрэтна падкрэсліць мелодыка-гарманічныя асаблівасці музычнага свету Шамаханскай царыцы, якія супрацьстаяць іранічным тэмам Дадоніі, больш шчодра выкарыстаць тэмбральныя перавагі інструментаў аркестра. Вядома, хацелася б, каб Шамаханская царыца прадстала ў спектаклі больш шматпланава. У музыцы гэтага складанага, часткова нават супярэчлівага вобраза многа граняў і адценняў, ён на дзіва шчодра, віртуозна, вытанчана распрацаваны фантазіяй кампазітара.

Шамаханская царыца ў оперы—гэта чараўніца з краю кахання, таямнічая і загадкавая, як мара аб Прыгожым, недаступная тупому свету Дадона, несумяшчальная з ім. Рамантычны вобраз гэты надзелены і сапраўднымі чалавечымі рысамі. У спектаклі Шамаханская царыца (артыстка Л. Златава) прадстае чароўнай, какетлівай, крыху капрызнай і ўзбаламучанай. Праўда, часам вобраз успрымаецца як драбнейшы, больш сціплы, чым у музыцы оперы.

«Сваяка» Шамаханскай царыцы па музычнай сферы—Звездачота В. Глушакоў і Л. Івашкоў выконвалі пераканаўча, з добрым пачуццём стылю. Аднак, на наш погляд, Л. Івашкову ўдалося паўней падкрэсліць вакальна-таямнічую значнасць вобраза Звездачота.

Са складаным гукапісам партыі Пеўніка выдатна справілася Л. Шаўчэнка.

Не простыя мастацкія задачы ўзніклі ў гэтай рабоце перад салістамі—выканаўцамі вядучых характэрных, парадыйных партый. Не ўсе і не адразу здолелі адчуць своеасаблівую атмасферу спектакля і сваё месца ў ім. Лепш за іншых, бадай, «акліматызаваліся» ў Дадоніі Амелфа—Л. Галушкіна. Актрыса з задавальненнем, свабодна вакальна і пластычна, літаральна купаецца ў забаўнай характэрнасці ролі.

Выканаўцы іншых партый: Дадон (В. Чарнабаеў, М. Дружына), Гвідон (В. Гур'еў), Афрон (В. Ганчарэнка, Ю. Бастрыкаў), Ваявода Палкан (А. Лакшын)—прынялі і здолелі перадаць характарыстычнасць хутчэй пластычных, чым вакальных інтанацый. На жаль, многа дасціпнага тэксту ў гэтых партыях прапала з-за дыкцыйных пагрэшнасцяў салістаў.

БЕЛАРУСКІ «Залаты пеўнік» прынёс радасць масквічам. І хочацца верыць, што тэатр захавае надоўга ў сваім рэпертуары гэту жамчужыну рускай класічнай спадчыны.

**Э. ШУМІЛАВА,**
кандыдат мастацтвазнаўства.

Масква.

# ЮНЫЯ ГАЛАСЫ Ў ЭФІРЫ

Школьнікі, якіх вы бачыце на нашым здымку, — са студыі юных дыктараў пры Беларускім радыё. Мы ўзялі ў іх кароткія інтэрв'ю — чым вабіць іх студыя, кім яны хочуць стаць, калі скончаць школу?



**Наташа РАБАЯ** (першая злева). Мне падабаецца тут літаральна ўсё: напружаная творчая атмасфера, якая пануе на радыё, заняткі з Галінай Фёдараўнай Малумавай, урачыстая цішыня ў студыі запісу, хваляванне, якое адчуваеш кожны раз, набліжаючыся да мікрафона, ну, і, вядома, захапленне родных і сяброў, калі яны чуюць твой голас у радыёперадачы. Больш за ўсё хачу стаць сапраўдным дыктарам, а калі не ўдасца, усё роўна знайду якую-небудзь работу, звязаную з радыёстудыяй, бо без яе ўжо не ўяўляю сабе жыцця.

**Аня ГОЛУБ.** Больш за ўсё мяне цікавіць творчасць маіх аднагодкаў, з якой я знаёмлюся тут сама і маю магчымасць пазнаёміць радыёслухачоў. Бываюць такія цікавыя апавяданні, вершы. Хочацца як мага лепш перадаць тыя пачуцці, якія хвалявалі аўтараў. А зразумеўшы іх, я неяк глыбей разумею і ўсё маё пакаленне. Калі скончу школу, буду паступаць на журналісцкі факультэт.

**Віталь МАЛЬЧЫКАЎ.** Мне падабаецца ўсё тое, пра што сказалі Аня і Наташа. Проста вы іх першых спыталі. Кім буду, яшчэ дакладна не ведаю, але ўсё больш схіляюся да думкі пра тэатральны інстытут...

Калі планы студыйцаў здзейсняцца, кожнаму з іх, безумоўна, прыдасца вопыт, набыты ў студыі, якой кіруе Г. Малумава, выхаванка Беларускага тэатральна - мастацкага інстытута. Юныя дыктары — назва ўмоўная, бо абавязкі іх шырэйшыя, чым простае данясенне да слухачоў той ці іншай інфармацыі. Удзельнічаючы ў перадачах дзіцячай рэдакцыі «Крылы», «Жывое слова», «Рамантыкі», «Верасок» і іншых, яны чытаюць апавяданні, вершы, пісьмы аднагодкаў. Тут патрабуюцца, акрамя добрай тэхнікі мовы, і пэўная эмацыянальнасць, і артыстычныя навыкі.

Зараз у студыі займаецца сорак чалавек. Частка дзяцей, пэўна, налета зменіцца, як гэта заўсёды бывае, але ўжо тыя, хто ходзіць сюды год у год, прырастаюць душой да студыі, і яна аказвае ўплыў на іх светаўспрыманне, фарміраванне густаў і звычак, на планы далейшага жыцця.

Лена Лазарэнка ўжо скончыла школу і зараз вучыцца на гістарычным факультэце універсітэта. Але яна па-ранейшаму ходзіць у студыю і вядзе перадачу «Вясёлая пошта». Юныя радыёслухачы так прывыклі да яе голасу, што і Лене, і кіраўніцтву дзіцячай рэдакцыі шкада пазбаўляць іх Марынкі, у рэальнае існаванне якой яны паверылі, якой прысылаюць самыя шчырыя пісьмы.

Многія выхаванцы студыі мараць аб тэатральным інстытуце. І сапраўды, туды паступілі Валя Кернажыцкая, Таня Ненарокамава, Саша Вавілаў, Валодзя Курган. Але няцяжка ўявіць, як прыдасца і педагогу, і журналісту, і лектару ўменне перадаваць свае думкі дакладна, даходліва, эмацыянальна.

**С. КЛІМКОВІЧ.**
Фота Ул. КРУКА.

# У БІБЛІЯТЭЦЫ ЯГО ІМЯ

У Віцебску, на вуліцы Беларускай, знаходзіцца масавая бібліятэка імя Янкі Купалы. Тут з пашанай адносяцца да народнага песняра, чыё імя носіць бібліятэка. Зараз калектыў супрацоўнікаў бібліятэкі рыхтуецца да юбілею народнага паэта рэспублікі. У бібліятэцы арганізавана пастаянна дзеючая кніжная выстаўка «Любімы паэт беларускага народа». На абанеменце аформлена спецыяльная паліца «Да юбілею Янкі Купалы». Толькі ў апошні час тут адбыліся тэматычныя літаратурныя вечары «Партызаны, партызаны — беларускія сыны», «Чым ты была, Беларусь мая родная?», «Савецкая Беларусь у паэзіі Янкі Купалы», «Чым вам дарагі Янка Купала» і інш. У плане мерапрыемстваў па дастойнай сустрэчы 90-годдзя з дня нараджэння песняра — выстаўкі, агляды, літаратурна-тэматычныя вечары, канферэнцыі чытачоў. А 7 ліпеня 1972 года ў бібліятэцы адбудзецца вялікі літаратурны вечар «Беларусь, мая радзіма, як жа расцвіла ты», на якім чытачы сустрэнуцца з маладымі паэтамі Віцебшчыны—нашчадкамі Янкі Купалы.

**Ф. НІКАЛАЕЎ.**

# КНІГА-ПАРТЫЗАНКА

У Бягомльскі музей народнай славы яна трапіла толькі праз дваццаць сем гадоў — невялічкая, у зялёнай вокладцы кніжачка. У ёй сабраны вершы партызана брыгады «Жалязняк» Віктара Скарахода. Кніжачка выдадзена ў маі 1944 года рэдакцыяй газеты Бягомльскага падпольнага райкома партыі «Савецкі патрыёт». Зборнічак, надрукаваны на пішучай машынцы, пабываў у сотнях і тысячах рук, пра што сведчаць заламаныя, зашмальцаваныя, пажоўклыя старонкі.

Цяпер кніжачка вершаў байца-партызана — адзін з экспанатаў музея. А калісьці... А калісьці яна была добрай памочніцай народных мсціўцаў у іх бязлітасным змаганні з ворагам, такой жа баявой зброяй, як аўтамат і вінтоўка. У вершах яскрава правадзіцца думка аб еднасці партыі і народа, якая з'яўляецца крыніцай нашай сілы і непераможнасці, яны прасякнуты глыбокай верай у канчатковую перамогу над азвярэлымі фашысцкімі акупантамі. Амаль кожны верш — гэта палымяны заклік да беларускага народа ўзнімацца на свяшчэнную барацьбу з ворагам, хутчэй наблізіць дзень вызвалення ад фашысцкага нашэсця.

Зараз Віктар Іванавіч Скараход працуе настаўнікам у Бярэзінскай сярэдняй школе. Ён выхоўвае юнакоў і дзяўчат, вучыць іх быць патрыётамі Радзімы, любіць свой родны край, за свабоду і шчасце якога ён змагаўся ў партызанскай брыгадзе «Жалязняк».

**Р. МАРОЗАЎ,**
дырэктар Бягомльскага музея народнай славы.

**Я. ЛУКАШЭВІЧ,**
супрацоўнік Докшыцкай раённай газеты «Ленінская трыбуна».

# ПРА ТЫХ, ХТО ЛЕГЕНДАЙ АВЕЯНЫ

Васемнаццаць буклетаў пра Герояў Савецкага Саюза выпусціла творчая студыя «Фота і жыццё» Саюза журналістаў БССР. У гэтых выданнях расказваецца пра нашых землякоў — генерала Льва Даватара, бясстрашнага лётчыка Аляксандра Гараўца, снайпера Феадосія Смалячкова, медсястру Зінаіду Тусналобаву-Марчанка і іншых франтавікоў, чый ратны подзвіг высока ацаніла Радзіма.

Многа цікавых звестак знойдуць чытачы ў буклетах, прысвечаных арганізатарам партызанскага руху ў Беларусі Кірылу Арлоўскаму, Мінаю Шмырову, Канстанціну Заслонаву, Васілю Коржу, юным народным мсціўцам Марату Казею і Зіне Портновай. Легендай авеяны імёны прафесійнай рэвалюцыянеркі і падпольшчыцы Веры Харужай. мінскіх падпольшчыкаў Ісая Казінца, Уладзіміра Амельянюка, Мікалая Кядышкі. Пра іх гераічнае жыццё і барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі цікава расказалі ў тэматычнай серыі выданняў навуковыя супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

**Ул. ВАЛОДЗІН.**

# МАЯ СТАЛІЦА!

манумента. На жаль, канчатковага рашэння прыняць не ўдалося. Разам з тым былі прызнаны магчымымі два варыянты такога размяшчэння: на самой Цэнтральнай плошчы на фоне будучага галоўнага грамадскага комплексу, або на броўцы плошчы Свабоды, дзе манумент можа замыкаць перспектыву Паркавай магістралі.

Нарэшце, яшчэ адна важная акалічнасць. Пры разглядзе прадстаўленых праектаў было прызнана мэтазгодным актыўна выкарыстаць спрыяльны рэльеф для арганізацыі ў падземных узроўнях розных абслугоўваючых устаноў, а таксама аўтастаянак.

Асабліва востра стаяла пытанне аб размяшчэнні нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы. У праектных распрацоўках быў шэраг прапаноў. Пасля праведзенага конкурсу аўтарскі калектыў Мінскпраекта (галоўныя архітэктары Ю. Градаў, Л. Левін) прадоўжыў работу на гэту тэму. У выніку горадабудаўнічы савет Мінска адобрыў праектную прапанову па размяшчэнні тэатра імя Янкі Купалы на Цэнтральнай плошчы ў адзіным комплексе з залай універсальнага прызначэння на 2 500 месц, залай таварыства «Веды» і шэрагам іншых устаноў абслугі ў надземных узроўнях. Толькі ў такім спалучэнні ўяўляецца магчымасць стварыць на плошчы даволі маштабны аб'ём.

Канечне, шкада, што творчыя пошукі зацягнуліся. Але дзеля справядлівасці хацелася б сказаць, што ў даным выпадку гаворка ідзе аб фарміраванні галоўнага архітэктурнага ансамбля плошчы, які ствараецца на вякі. Памылкі тут недапушчальныя. Успомнім, колькі гадоў вырашалася пытанне аб размяшчэнні Палаца Саветаў у Маскве, колькі конкурсаў было праведзена, а ў выніку... пачатае будаўніцтва Палаца было прыпынена, ад ідэі размяшчэння Палаца ў паўднёва-заходнім раёне Масквы адмовіліся (хоць канкрэтнае праектаванне на аснове праведзеных конкурсаў ужо вялося) і было вырашана стварыць Палац з'ездаў у гістарычна складзеным цэнтры — Крамлі, што з'явілася адзіна правільным жыццёвым рашэннем.

Я гэтым зусім не хачу апраўдваць нашых дойлідаў. Хочацца толькі падкрэсліць тую складанасць і адказнасць, якія звязаны з фарміраваннем галоўнага ансамбля горада.

Гэта датычыць і рашэння раду іншых архітэктурных ансамбляў цэнтра, перш за ўсё забудовы вуліц Нямігі—Мяснікова і раёна Паркавай магістралі. Тут ідуць актыўныя творчыя пошукі. Так, напрыклад, у Мінскпраекце праведзены спецыяльны ўнутрыінстытуцкі конкурс забудовы Нямігі. Конкурс даў рад цікавых праектных прапаноў, якія павінны быць улічаны ў другім туры праектавання, што зараз вядзецца.

Вопыт паказвае, што канкрэтныя праектныя распрацоўкі ў цэнтры патрабуюць многа часу і сродкаў. Таму важна арганізаваць перспектыўнае праектаванне будынкаў у цэнтры, каб да моманту атрымання сродкаў на будаўніцтва меліся праекты. На жаль, існуючы парадак фінансавання, калі сродкі на праектаванне выдзяляюцца за кошт капітальных укладанняў, не дазваляе своечасова і якасна рыхтаваць праектную дакументацыю. Таму нам здаецца, што наспела патрэба выдзяляць спецыяльныя сродкі на перспектыўнае праектаванне аб'ектаў забудовы цэнтра. Толькі ў такім выпадку мы здолеем без лішняй паспешлівасці атрымаць высакаякасныя праекты унікальных будынкаў.

Многія задаюць пытанне—калі ж пачнецца інтэнсіўная забудова цэнтра сталіцы?

Інтэнсіўная забудова цэнтра беларускай сталіцы пачнецца ўжо ў гэтай пяцігодцы. Сёлета Мінскпраект абавязаны закончыць праект дэталёвай планіроўкі забудовы цэнтра.

Адначасова выконваецца рад канкрэтных праектаў забудовы, частка з якіх ужо ажыццяўляецца. Зараз распрацоўваецца праектная дакументацыя па забудове Паркавай магістралі на ўсім працягу ад плошчы Свабоды да завода халадзільнікаў. Тут ужо ўзводзіцца комплекс 12-павярховых адміністрацыйных будынкаў інстытута тэхнічнай інфармацыі, Дома кнігі, будынак Белкаапсаюза, у першых паверхах якіх уздоўж магістралі размешчаны ўстановы гандлю, грамадскага харчавання і бытавой абслугі.

Побач з гасцініцай «Юбілейная» сёлета пачнецца ўзвядзенне новага будынка Белдзяржпраекта, там жа пачата будаўніцтва і новай гасцініцы «Інтурыст» на 600 месц, у галоўнай частцы завода халадзільнікаў пачата ўзвядзенне высотнага інжынернага корпуса, да архітэктурнага вырашэння якога прад'яўлены павышаныя патрабаванні.

Працягнецца інтэнсіўная рэканструкцыя вуліцы Рэспубліканскай, Апанскага. Уздоўж вуліцы Танкавай на ўсім працягу ў бліжэйшыя гады пачнецца будаўніцтва аднаго з буйнейшых у горадзе жылога комплексу павышанай павярховасці.

Працягнецца інтэнсіўная рэканструкцыя раёна вуліцы Пуліхава, Захарава, раёна вуліцы В. Харужай, вуліцы Маякоўскага. Пачата рэканструкцыя вуліцы Нямігі.

У цэнтры Мінска побач з грамадскімі комплексамі размешчаны два жылыя раёны, якія рэканструіруюцца, раён, што прылягае да вуліцы Пуліхава і раён у межах вуліц Нямігі—Клары Цэткін. Тут, у межах другога гарадскога кальца на працягу 1971—1975 гг. павінна быць размешчана да 50 працэнтаў агульнага аб'ёму жыллёвага будаўніцтва ў горадзе.

У сувязі з гэтым выключна важнае значэнне набывае праблема паляпшэння горадабудаўнічых якасцей жылога будаўніцтва ў цэлым і архітэктуры асобных будынкаў у прыватнасці.

У першую чаргу павінны ўзводзіцца дамы павышанай павярховасці—12—15 паверхаў. Паўторнае ўжыванне аднатыпных праектаў такіх будынкаў у розных раёнах можа нанесці непапраўныя страты архітэктурнаму аблічча горада.

У 50-я гады, калі ў забудову дырэктыўна ўкараняліся разрозненыя тыпавыя праекты, пазбаўленыя дастатковай архітэктурнай выразнасці, а галоўнае—ансамблевых якасцей, было ўзведзена шмат нецікавых будынкаў у раёне Партызанскага праспекта, вуліц Горкага, Якуба Коласа. За апошнія гады прыняты рашучыя меры для ліквідацыі гэтых памылак.

На наш погляд, асабліва ярка гэта відаць на прыкладзе забудовы Партызанскага праспекта. Пяць-шэсць гадоў назад аблічча магістралі вызначалася невыразнымі 5-павярховымі тыпавымі будынкамі, якія кепска стасаваліся з вялікай шырынёй магістралі. Сёння архітэктурны тон у забудове гэтай магістралі задаюць будынкі павышанай павярховасці, рытмічна размешчаныя ўздоўж праспекта.

Вельмі важна, што работа па карэнным паляпшэнні аблічча Партызанскага праспекта ажыццяўляецца на аснове папярэдне распрацаванага агульнага праекта забудовы. Тут трэба яшчэ ажыццявіць рад збудаванняў на магістралі, завяршыць забудову плошчаў, ажыццявіць рад канструктыўных мерапрыемстваў (у прыватнасці пажадана было б хутчэй рэканструяваць двухпавярховыя дамы, размешчаныя супраць мотавелазавода). Аблічча магістралі значна палепшылася дзякуючы праведзеным работам па добраўпарадкаванні і азеляненні.

Пройдзе яшчэ некалькі гадоў, і непазнавальна зменіцца аблічча вуліцы Якуба Коласа.

На ўсю даўжыню магістралі складзены праект забудовы, што дазваляе планамерна весці рэканструкцыю і новае будаўніцтва. Так, напрыклад, рэканструіруецца фронт магістралі ўздоўж політэхнічнага інстытута. Тут ужо будуецца выразны будынак аўтатрактарнага факультэта. Паміж існуючымі карпусамі будуць узведзены некалькі высотных аб'ёмаў. З супрацьлеглага боку фронт вуліцы ўзбагачаецца другім планам забудовы мікрараёна па вуліцы Цнянскай, што надае яму больш сучаснае гучанне. На адрэзку ад вуліцы Друкарскай да вуліцы Валгаградскай уздоўж магістралі ўзведзена група 9-ці павярховых будынкаў, а на перасячэнні вуліцы Якуба Коласа з Друкарскай узводзіцца 12-ці павярховы будынак інтэрната радыётэхнічнага інстытута.

Цалкам зменіцца аблічча забудовы магістралі на адрэзку ад вуліцы Валгаградскай да кальцавой магістралі. Гэты раён з заходняга боку быў забудаваны 2-х павярховымі дамамі. Таму было прынята рашэнне перанесці праезджую частку на ўсход, каб наперадзе 2-х павярховых будынкаў пабудаваць комплекс 9-ці павярховых будынкаў. Прыём правільны і арыгінальны. Зразумела, эфект рэканструкцыі патрабуе многа часу, горадабудаўнічай вытрымкі і вялікіх работ па забудове і добраўпарадкаванні.

Важна, каб новая забудова ажыццяўлялася якасна. Для гэтага, перш за ўсё, неабходна далейшае ўдасканаленне архітэктурнага майстэрства нашых дойлідаў, вялікая ўвага да дасягнення ансамблевасці забудовы, уменне падначаліць сваё творчае «я» інтарэсам фарміравання ансамбля.

Вельмі важна пашырыць палітру аддзелачных матэрыялаў. Аб гэтым ужо ішла гаворка, калі мелі на ўвазе якасць жыллёвага будаўніцтва. Інтарэсы паляпшэння аблічча магістраляў сталіцы патрабуюць хутчэйшага вырашэння пытанняў забеспячэння будоўляў дастатковай колькасцю сучасных абліцовачных матэрыялаў — алюмініем, натуральным каменем. Задача заключаецца і ў тым, каб рашуча палепшыць аблічча будынкаў, якія ўжо ўзводзяцца.

Пытанні рэканструкцыі і развіцця цэнтра Мінска шматгранныя і складаныя. У гэтым артыкуле ў мяне была магчымасць асвятліць, галоўным чынам, горадабудаўнічыя аспекты праблемы. Астатнія пытанні патрабуюць спецыяльнай размовы.



Так будзе выглядаць Беларускі інстытут фізічнай культуры на Паркавай магістралі.

---

Карціны Міхася Савіцкага, якія глыбока перадаюць горды дух і свабодалюбнасць беларускага народа, пазбаўлены прыкмет пратакольнага адлюстравання факта, падзеі. Яны выклікаюць на роздум і аб жыцці, і аб мастацтве. У іх—высокі ідэйны і эмацыянальны напал.

Вось, напрыклад, «Партызанская мадонна» (дарэчы, яна цяпер—на выстаўцы твораў мастакоў краін басейну Балтыйскага мора ў Ростаку, у ГДР, дзе ёй прысуджана першая прэмія). Мы начыталіся пра гэтую карціну і наслухаліся самых розных водгукаў. Таму цікава, як жа інтэрпрэтуе яе сам мастак...

— Перш чым стварыць карціну, мастак павінен ведаць, што ён такое вызначыць ёю у сваіх творчых і чалавечых пазіцыях. Для мяне вобраз партызанскай мадонны—сімвал Беларусі. Дзея карціны адбываецца ў суровы ваенны час, у абставінах драматычных. І палатно павінна мець акрэсленую колькасць кампанентаў драматычнай насычанасці. Але драматызм павінен быць і ўнесены драматычным вобразам: нельга ж было прайсці міма лёсу Беларусі ў цэлым. Мадонна—вечнае жыццё ва ўмовах вайны, барацьбы, пакут. Старая побач—сімвалічная перадгісторыя краіны і народа, якія праходзілі ўжо раней праз гады вайны і выпрабаванняў...

Савіцкі з тых мастакоў, якія не любяць загадзя абяцаць, загадзя раскрываць тое, аб чым трэба яшчэ шмат думаць.

І ўсё ж—мне пашанцавала—ён устае, адсоўвае ўбок заслону з палатна...

Так, сапраўды, карціна пакуль далёкая ад завяршэння.

...Людзі ў полі... Заклапочаныя, выразныя аблічча на светлым фоне іржышча.

— Я—з сялян... Люблю іржышча. А карціну назаву—«Пара сяўбы азіміны» або «Перад сяўбой»... Наўрад ці паспею завяршыць сёлета. А вось другую работу, мабыць, скончу. У лютым наступнага года ў Манежы адбудзецца занальная выстаўка работ мастакоў Беларусі, Украіны, Малдавіі — вось для гэтай выстаўкі і стараюся...

Другая карціна—пра подзвіг народны ў гады ваенных выпрабаванняў.

Так, мастак працягвае распрацоўку сваіх карэнных тэм—працы і барацьбы.

І вось бачу гэтую, другую, карціну.

Звычайна пра подзвіг народны Савіцкі выбірае драматычныя сюжэты, часам—трагічныя. І гэтая новая карціна прымушае мацней забіцца сэрца.

...Жалобны фон. Гінуць блізкія, дарагія нам людзі—дзеці, старыя. Але сапраўдная смерць—не тут, а там, адкуль, нябачныя, цэляць забойцы. Іх, забойцаў, няма на палатне. Яны не патрэбны...

— Так, гэта тыя самыя шасцёра заложнікаў—дзеці партызана, сястра яго і цешча,—глуха гучыць голас мастака.—Я цвёрда вырашыў даць новай карціне канкрэтны гістарычны адрас. Так і назваў: «Забойства фашыстамі сям'і Міная Шмырова». Як працую?.. Вывучыў усё, што здолеў знайсці пра легендарнага бацьку Міная, пра трагедыю яго сям'і. Дарэчы, не захавалася ніводнага фотаздымка загінуўшых блізкіх, родных Міная... Але карціна—не фатаграфічны адбітак трагічнай падзеі. Гэта, у першую чаргу, тыповае і адначасова сімвалічнае адлюстраванне высокай стойкасці, нязломнасці савецкіх людзей здольных прыняць пакутлівую смерць з усведамленнем сваёй праваты, праваты справы свайго народа...

Карціна пакуль не завершана. На маю думку, і цяпер можна сказаць, што новая работа мастака сведчыць аб якасна новых зрухах у яго творчасці, можа і не надта відочных, схаваных у глыбіні, ды пры ўсім тым прынцыповых.

...Мы крочым з ім па калідорах Мінскага мастацка-вытворчага камбіната. Выхадны дзень. Крокі аддаюцца рэхам у цішыні. Міхась Андрэевіч вядзе да вялізнага шматпланавага пано.

— Шчыра кажучы, на долю мастакоў такая работа выпадае не часта,—гаворыць ён перад пано.—Для Беларускага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны я павінен выканаць кампазіцыю «Вайна на этапе 1944 года». Трэба адлюстраваць падзеі вызвалення Савецкай Беларусі, велічную місію савецкага салдата, што нясе вызваленне ад гітлерызму народам Еўропы... Як бачыце, тэма для мяне не новая... Работа, зразумела ж, складаная. Народная эпапея—гэта не асобная батальная сцэна ці эпізод. Трэба знайсці тыя істотныя кампаненты, якія б глыбока сімвалізавалі подзвіг арміі і народа. Канкрэтна работа будзе выглядаць як роспіс жывапісам на ўсю сцяну восем на сем метраў. Гэтае ж пано — толькі фрагмент усёй работы...

На развітанне не магу ўтрымацца ад непазбежнага ў такіх выпадках пытання: аб «далёкім прыцэле» яго нага творчага пэндзля—наступных творчых планах.

— Адкажу таксама «непазбежнай» ісцінай: кожны мастак лічыць, што лепшы ягоны твор яшчэ не напісаны,—усміхаецца Савіцкі.—Новыя сюжэты, вобразы ўладарна заяўляюць пра сябе. Шчыра скажу: задуманы даўно ўжо цыкл палотнаў аб звярыным абліччы фашызму паводле перажытага асабіста ў гітлераўскіх лагерах знішчэння. Лічу сваім абавязкам сказаць пра гэта сваё слова. Усё вырашыць час...

**Барыс ФІРШТЭЙН.**

Праблемы, меркаванні, роздум

М. ГРЫЦАН

# ШАБАШНІКІ

Ранняй вясной на Драгічыншчыне доўга трымаецца густы, цягучы туман. Але толькі падуе ветрык, і рассейваецца застоеная заслона. І паветра, ледзь падагрэтае сонцам, пахне вясновымі сокамі зямлі і набухлымі пупышкамі вішань.

У адну такую раніцу з новага, зялёнага дома выйшаў мужчына. Па ўсім відно было, што сабраўся ён у далёкую дарогу. Сцёганка падпяразана армейскім рамянём, штаны запраўлены ў боты, за плячыма рукзак, у руцэ загорнуты ў дзяругу цяслярскі інструмент. Сышоў з ганка, задаволеным позіркам акінуў сад, хлеў з бярвенняў. Пачуўшы гаспадара, замыкала карова, захрукаў парсюк. Мужчына затрымаў позірк на тэлевізійнай антэне над чарапічным дахам і пайшоў з двара. У вёсцы Суботы яшчэ снедалі, і ён быў рады, што на вуліцы пуста, не трэба ні з кім вітацца, адказваць на пытанні.

Хутка ён апынуўся ў завулку, забудаваным навасёламі. Падышоў да дома, такога ж дабротнага, як свой, моцна пастукаў у сцяну. Адчыніліся дзверы.

— Іду, Сямён Майсеевіч! — пачулася з сенцаў. Дзынкнула жалеза, і той самы голас прагучаў суцяшальна. — Ды хопіць табе, маці. Не на вайну ж... Будзь здарова!

— Зноў шумела, Аляксандр Іванавіч? — спытаў Сямён Майсеевіч, калі яны пайшлі па дарозе.

— Баба... Ёй што?

Хутка да С. Шэлеста і А. Хоміча далучыліся Мікалай Якаўлевіч Саўчук, Васіль Майсеевіч Шэлест і яшчэ некалькі чалавек. Ішлі моўчкі, неяк сарамліва, не гледзячы па баках, спяшаліся хутчэй мінуць двары аднавяскоўцаў. Але тут, загрымеўшы вёдрамі, выйшла з веснічак жанчына.

— Шабашнікі, — злосна кінула ім услед. — Управы на вас няма!

Мужчыны пайшлі хутчэй.

— Якія аліменты мае, а ўсё лютуе, — крутануў галавой Хоміч.

— І будзе лютаваць, — пахмура сказаў Шэлест. — Трое дзяцей у хаце. Без бацькі.

Сямёну і Васілю Шэлестам сустрэча з жанчынай была асабліва непрыемная. Адчувалі сябе так, нібы самі наклікалі ёй гора, хоць, на іх думку, ва ўсім вінаваты брат Антон і ніхто іншы.

А як усё было? Сем гадоў назад такой жа ранняй вясновай парой яны ўтрох і з імі яшчэ чалавек пяць выправіліся на заробкі ў глыб Расіі. У адным сяле, дзе «гарэла» будаўніцтва жывёлагадоўчай фермы, брыгаду цесляроў з Беларусі прынялі як нельга лепей. Былі і добры харч, і вялікія грошы, можна было і забавіцца. І вось увосень, калі збіраліся дамоў, Антон заявіў, што да жонкі вяртацца не мае намеру. Забраў пажыткі і назусім перабраўся ў дом маладзіцы, да якой вечарамі заходзіў папіць ядранай сібірскай бражкі...

□

Вось так кожную вясну з Драгічынскага раёна на паяздах і аўтобусах едуць на адыходныя промыслы сотні дужых, здаровых мужчын. Гэта — цесляры і печнікі, муляры і сталяры, страхары і бляхары, адным словам, людзі, чыім майстэрствам ганарыўся б любы калгас. Маршруты іх пралягаюць далёка за межы Беларусі, у месцы, дзе да зарэзу патрэбны рабочыя рукі, дзе падціскаюць тэрміны будаўнічых работ. Там, значыць, і начальства памяркоўнае, гатовае пайсці на ўсё дазволенае (а часам і недазволенае), толькі б хутчэй здаць у эксплуатацыю запланаваныя аб'екты.

Вось чаму іншыя старшыні калгасаў, кіраўнікі саўгасаў з Расійскай Федэрацыі і Украіны ўжо ў лютым шлюць старым знаёмым пісьмы, запрашаючы зноў прыехаць, дапамагчы, абяцаюць не пакрыўдзіць пры разліку. І нашы беларускія ўмельцы з ахвотай адгукаюцца на запрашэнні, і там стараюцца, працуюць ад зары і да зары.

Прама скажам, не інтарэсы тамашніх гаспадарак штурхаюць іх на такі працоўны парыў. Іх падхлістваюць выгадныя ўмовы акорднай аплаты. Бо гэтым «багам» хуткаснага будаўніцтва, якіх цяпер з пашанай называюць сезоннікамі, выплачваецца 50—55 працэнтаў каштарыснага кошту аб'екта! Плюс дзесяткі цэнтнераў адборнага збожжа. Менавіта такая сістэма і нарадзіла шабашніцтва: «Адгрукаў кароўнік (свінарнік, гараж), атрымаў грошы — і шабаш!»

Адну з такіх брыгад мне ўдалося праінтэрв'юіраваць.

Калгаснік сярэдніх гадоў, паважны, які ведае сабе цану:

— Я ў Башкірыю на заробкі не першы год езджу. Вось і цяпер пісьмо ад знаёмага старшыні калгаса атрымаў. Запрашае аўтапарк будаваць. Аплата, вядома, акордная па вышэйшай шкале. Чаму ж не паехаць? Да восені вярнуся, сына ажаню, дом яму пастаўлю.

Хлапец гадоў трыццаці. Цыгарка ў роце. Нахабна, развязна:

— Мы, можа, вялі-і-кую справу робім, па-братэрску дапамагаем сваім жа савецкім людзям. А нас за гэта шабашнікамі завуць. Ці справядліва гэта?

Стары — у вачах незалежнасць і выклік — рэжа адкрыта:

— Рыба заўсёды шукае, дзе глыбей. Так і мы. У нас у «Міжкалгасбудзе» як? Першая машына з растворам прыходзіць на будоўлю аж у дзевяць раніцы, апошняя — калі сонца толькі хіліцца на захад пачынае. А мне, каб ад цямна да цямна, на ўсю сілу. Зноў жа, каб добры рубель ішоў...

Паслухаеш іх, і міжволі задумаешся: дык хто ж яны — шабашнікі, ці паважаныя ўсімі майстры-сезоннікі, рвачы, ці сумленныя працаўнікі, якія засумавалі па любімай рабоце ад зары да зары?

Цяжка адназначна адказаць на гэтыя пытанні. Тут усё пераплялося: і псіхалогія дарэвалюцыйнага сялянства, якая засталася нам у спадчыну, і парадкі (або непарадкі) ў некаторых калгасах, дзе не цэніцца праца ўмельцаў, няма матэрыяльнай зацікаўленасці, дзе ў людзей прытупілася пачуццё адказнасці перад калектывам.

Адно можна сказаць пэўна, абапіраючыся на вопыт шматгадовых назіранняў за гэтай з'явай кароткачасовай міграцыі. Большасць тых, хто ад'язджае на адыходныя промыслы, — людзі, якім у сябе дома, у родным калгасе няма куды прыкласці сваё майстэрства. Хоць кожны калгас мае шырокую праграму культурна-бытавой перабудовы. Але чаму ж гэтыя планы арыентаваны не на свае акордна-аплачваемыя будаўнічыя брыгады? Уся надзея на падрадчыкаў — раённыя ўпраўленні «Міжкалгасбуда» і перасоўныя механізаваныя калоны Міністэрства сельскага будаўніцтва БССР. А гэтыя арганізацыі яшчэ не могуць пахваліцца ні добрай арганізацыяй працы, ні высокімі заробкамі. Не кожны кваліфікаваны цясляр або муляр, які любіць работу «на ўсю сілу», туды ідзе.

Ёсць сярод сезоннікаў і сапраўдныя шабашнікі, хапугі.

Я бачыў адзін багаты двор. Ён стаіць на калгаснай зямлі. На досвітку гаспадыня выганяе з двара карову з цялём на агульны выпас. Дзеці бягуць у школу, пабудаваную сельгасарцеллю. Часта жанчыну і яе дзяцей бачаць у калгасным клубе. Іншы раз яна заходзіць у праўленне і патрабуе каня для асабістых патрэб. Ну, што ж, яна член арцелі, выпрацоўвае свой мінімум чалавекадзён, як тут не пайсці ёй насустрач. А дзе ж гаспадар? Як заўсёды, у ад'ездзе, на адыходных промыслах.

Хапуга ёсць хапуга. Ён часам не пасаромеецца ўварваць вялікі кавалак і ў гасцях.

У Драгічынскім райкоме КПБ мне расказалі такую гісторыю. Пазалетась вясной некуды ў Прыуралле паехалі калгаснікі сельгасарцелі «Дружба» Г. Мечнік, І. Шпак, Л. Качан, В. Мануевіч, Д. Міхнюк. Вярнуліся шыкоўна. Яшчэ б! Апрача грошай, прывезлі квітанцыю на 100 цэнтнераў пшаніцы, якую можна атрымаць у любы дзень на мясцовым складзе. А неўзабаве з калгаса імя Ільіча Кушнарэнкаўскага раёна Башкірскай АССР прыйшло гнеўнае пісьмо. «У непагадзь разваліўся цялятнік, які будавала ваша брыгада, — паведамляў старшыня. — Прышліце нам гэтых несумленных шабашнікаў, няхай перарабяць сваю дрэнную работу».

У райкоме і райвыканкоме паспачувалі даверлівым башкірскім таварышам, «прапячаталі» шабашнікаў у газеце. На тым і скончыўся інцыдэнт. Нават пасля гэтага сігналу кіраўнікі раёна ўсур'ёз не задумаліся, чаму ж у самую гарачую пару, калі трэба і сеяць, і будаваць, і скаціну карміць, вёскі пакідаюць патрэбныя гаспадарцы людзі.

Адзін таварыш у сувязі з гэтай гісторыяй выказаўся ў тым сэнсе, што адыходніцтва, маўляў, проста самадзейны працэс і тут нічога не зробіш. У шабашніка ўжо такая натура: ледзь прыгрэла вясновае сонейка, як яго цягне з дому, у далёкія краі на шалёныя грошы.

Але ж не пра адпетых шабашнікаў ідзе гаворка! Іх вельмі мала ў саракатысячнай арміі дужых мужчын, якія кожную вясну пакідаюць родныя месцы і прападаюць недзе да позняй восені. Рвач-сезоннік не можа кінуць цень на палескага селяніна сённяшніх дзён, чалавека, які кроўна звязаны з роднай зямлёй і стаў яе клапатлівым, дбайным гаспадаром. Трывожыць тое, што сумленным работнікам, якія засумавалі па сапраўднай справе, дома рабіць няма чаго.

А ім бы будаваць дзіцячыя сады і лазні, вадзіць трактары і камбайны, пракладваць каналы новай меліярацыйнай сістэмы. І яшчэ многа-многа маглі б зрабіць умельцы для свайго краю, які з кожным днём багацее, калі б кіраўнікі зацікавілі іх, скарысталі іх залатыя рукі. Але ці то з прывычкі да старажытнай традыцыі адыходных промыслаў, ці з-за недахопу ініцыятывы дзесьці на баку траціцца праца цудоўных работнікаў. І невыпадкова некаторыя з іх, як Антон Шэлест, сталі чужымі для сваёй сям'і і роднага сяла.

Жыва ўяўляю сабе братоў Шэлеста і ўсю іх брыгаду за работай. Гарачае сонца ўжо хіліцца на захад, а мужчыны, асядлаўшы зруб, з ранейшым спрытам арудуюць сякерамі і піламі. Блішчаць голыя загарэлыя спіны. Іграюць мускулы. Побач з будоўляй на летняй пліце кухарка скварвае кулеш. А работнікі нібы не чуюць густога паху апетытнай стравы. Вось яна, работа да сёмага поту!

Так, нашы беларускія ўмельцы пабудавалі ўжо нямала жывёлагадоўчых фермаў, дамоў, розных вытворчых і бытавых памяшканняў. Але гэта дзесьці, а не дома. Масавыя ад'езды выдатных работнікаў падрываюць эканоміку калгасаў, тармозяць перабудову вёскі, дэзарганізуюць сельскагаспадарчую вытворчасць, зрываюць планы набору рабочых для будоўляў і прадпрыемстваў рэспублікі. Шабашнік першы, хто сваім выглядам, паводзінамі падрывае працоўную дысцыпліну. Так што ад яго шкоды больш, чым карысці.

Усе, з кім я ні сустракаўся ў Драгічынскім раёне, у адзін голас кажуць, што калі з шабашніцтвам нельга пакончыць зусім, дык трэба хоць кіраваць ім, абмяжоўваць яго, рэгуляваць. Патрэбна планавая дзяржаўная арганізацыя выездаў на сезонныя работы для дапамогі земляробам братніх рэспублік. Гэта будзе цалкам адпавядаць Статуту сельгасарцелі, задачам далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі краіны.

Утрымаць патрэбных нашай вёсцы людзей можна, матэрыяльна зацікавіўшы іх. Трэба, каб работа ў калгасе была круглы год, каб аплачвалася яна па прагрэсіўнай сістэме. Тады нават той калгаснік, у якога прытупілася пачуццё адказнасці перад родным сялом, падумае, ці варта яму шукаць заробку на баку.

Нездарма ў Дырэктывах XXIV з'езда КПСС па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі краіны на 1971—1975 гады падкрэсліваецца неабходнасць рознабаковага развіцця калгаснай вытворчасці. «Забяспечыць у калгасах і саўгасах далейшае развіццё падсобных прамысловых вытворчасцей і промыслаў, — гаворыцца ў гэтым праграмным дакуменце, — у першую чаргу, па перапрацоўцы і захаванні сельскагаспадарчай прадукцыі, вытворчасці будаўнічых матэрыялаў і тавараў народнага ўжытку з мясцовай сыравіны, у мэтах больш поўнага і раўнамернага на працягу года выкарыстання працоўных рэсурсаў у сельскай мясцовасці, умацавання эканомікі гаспадаркі, павышэння вытворчасці працы...»

У Драгічыне дзеля цікавасці схадзіў на рынак. Чаго там толькі не было! Горы салаты, радыскі, свежых агуркоў. Адкуль, пытаюся, гэткае багацце? Мне адказалі, што гэта — прадукцыя прыватных сялянскіх парнікоў з калгаса «Іскра». І падумалася мне, чаму б праўленню калгаса на чале са старшынёй Соф'яй Рыгораўнай Чаховіч, сіламі сельскіх умельцаў не стварыць парніковую гаспадарку, каб узяць у свае рукі гандаль ранняй гароднінай? Выгада ад гэтага несумненная.

Хто не чуў пра давыд-гарадоцкіх гандляроў, якія вясной раз'язджаліся па ўсёй краіне прадаваць насенне кветак? Яшчэ нядаўна ў гэтым раёне кветкаводства было лёгкім заробкам барыг. Першымі, хто скеміў, што такі «лёгкі заробак» можа ўзбагачаць і калгас, былі члены праўлення сельгасарцелі «17 верасня». Цяпер тут ёсць плантацыя кветак. Цюльпаны, астры, мяціёлы, петуніі, гваздзікі адсюль накіроўваюцца ў Маскву, Ленінград і іншыя гарады. Кветкаводствам, як падсобнай даходнай галіной гаспадаркі, зацікавіліся многія калгасы.

Можна назваць цэлы рад перадавых гаспадарак Палесся, дзе для агульнай карысці працуюць усе працаздольныя. Тут на адыходных промыслах моцна б'юць падсобныя промыслы ў саміх калгасах. Матэрыяльная зацікаўленасць у развіцці пабочных вытворчасцей выбівае глебу з-пад шабашнікаў.

Скажам, у сельгасарцелі «Сцяг камунізма» Чачэрскага раёна пабудаваны кансервавы і цагельны заводы. Заробкі тут добрыя, а разнасолы ў бляшанках і каштоўны будаўнічы матэрыял даюць гаспадарцы вялікі прыбытак.

□

... Даўно мінулі тыя дні, з якіх я пачаў свой расказ. Вось ужо і ўборка ўраджаю завяршаецца на беларускіх палях. А нашы сезоннікі-адыходнікі, як пералётныя птушкі, усё яшчэ там, дзе багацейшы корм...

Драгічынскі раён,
Брэсцкая вобласць.

*З МІНУЛАГА*

# ДЗВЕ СПРАВЫ З АРХІВА

**Час нарошчвае ў архівах манбланы дакументаў. Яны беражліва захоўваюцца. Тысячы забытых і паўзабытых — вартыя самага пільнага даследавання.**

**Сапраўды каласальныя запасы каштоўнейшых дакументаў у Дзяржаўным гістарычным архіве БССР. Ужо беглае азнаямленне з вопісам матэрыялаў, размеркаваных па асноўных фондах, напрыклад, канцылярыі Мінскага і Магілёўскага губернатараў і іншыя) дазваляе меркаваць аб наяўнасці дакументаў, у той або іншай меры звязаных з гісторыяй нашага мастацтва і літаратуры.**

**Праўда, на работу ў архіве патрэбен час. Але затрачаны час акупаецца знаходкамі. І я нямала пераглядзеў папер, пакуль адкрыліся перада мной папкі, самыя звычайныя па выглядзе. Іх назвы, здавалася б, ні пра што асаблівае не гавораць.**

**Вось адна распачатая ў 1882 годзе, — «Помнікі старыны на тэрыторыі Мінскай губерні». І як жа я ўсхваляваўся, калі пераканаўся: матэрыялы, што захоўваюцца ў папцы амаль дзевяноста гадоў, маюць самае непасрэднае дачыненне да бацькі нашага паэта Максіма Багдановіча — Адама Ягоравіча, віднага беларускага літаратара і этнографа. Але ў тую пару, пра якую пойдзе гаворка, ён быў сціплым**

Еахім НОВАТНЫ

# ВЕРАНІЧКА



ВАСІЛЬ стаіць на ўзгорку. Перад ім маленькая нямецкая вёсачка. Вясна. У бярэзніку заліваюцца птушкі. Паветра — нібы мёд у сотах, пяшчотнае і салодкае. За плячыма — тры гады вайны: нясцерпная спёка і лютыя халады, крывавыя баі, пыл і гразь , пакуты і смерць. А цяпер на зямлі і вясна і мір. Здавалася б, Васілю толькі радавацца, што дажыў да гэтага дня. Але не, нешта мучыць яго...

«Праз гадзіну выступаем, — гучыць у Васілёвых вушах голас лейтэнанта. — Недзе тут непадалёку прытаілася банда. Мабыць, недабітыя фашысты, якія адмаўляюцца здавацца. Але мы ім зададзім дыхту. А табе трэба ўладкаваць дзяўчынку дзе-небудзь тут. Узяць яе з сабой мы не можам».

Так загадаў лейтэнант. Васіль паправіў рэмень, абцягнуў гімнасцёрку і пайшоў. І вось ён цяпер стаіць тут, на ўзгорку, глядзіць на разбураную вёсачку, якая замкнулася на ўсе засаўкі і не хоча ведаць ні вясны, ні міру.

«Эх, таварыш лейтэнант! — разважае Васіль. — Які цяжар узваліў ты на мае плечы!»

Васіль ідзе далей. Трэба спяшацца. І так змарнаваў цэлых дзесяць хвілін. Цяпер у яго застаецца ўсяго пяцьдзесят хвілін. За гэты час можна справіцца з цэлай ротай фашыстаў. Эх, чаго б толькі не зрабіў Васіль за гэтыя пяцьдзесят хвілін! Знайшоў бы нават коней, калі б было патрэбна. Прыстрэліў бы дзіка для палявой кухні. Нават бліндаж збудаваў бы ды яшчэ выклаў бы з чырвоных каменьчыкаў серп і молат.

Але цяпер яму трэба дзе-небудзь уладкаваць нямецкую дзяўчынку. Ад адной думкі пра гэта яго спіна макрэе. Усяго толькі за пяцьдзесят хвілін! Як справіцца?! Можа, проста пайсці і сказаць: «Вось вам дзіця, бярыце яго і ніякіх пярэчанняў!» Але хіба можна так гаварыць людзям. Не, нельга.

«Эх, — думае Васіль, — ведаць бы нямецкую мову. Тады б усё было куды прасцей». Знайшлі мы гэтае птушаня, — сказаў бы ён тады гэтым людзям, — каля дарогі знайшлі, у скрутачку. Паблізу ні душы, не маглі ж мы яго пакінуць. Але наперадзе ў нас новы бой. Ды і рукі ў нас агрубелі, як жалеза сталі, нам і дакрануцца боязна да гэтай малечы. Вазьміце яе, людзі, патрымайце, пакуль не вернецца маці, бо толькі ж дзень прайшоў пасля вайны, а калі маці не вернецца, — выхавайце яе, зрабіце з яе добрага чалавека! Толькі зірніце на яе! Ёй яшчэ і двух гадоў няма. Такая яна бездапаможная...

Але Васіль не ведае нямецкай мовы, каб сказаць усё гэта. Яму вядомы толькі асобныя словы, якім навучыла яго вайна і нянавісць да фашыстаў, і яны гэткія ж грубыя, як і яго рукі. Бездапаможна глядзіць ён на пустыя сядзібы, пазачыненыя вароты і шчыльна пазанавешаныя вокны, за якімі хаваюцца немцы. «Нічога ў мяне не атрымаецца, — думае Васіль, — нічога...»

Першы дом злева. Тынк на сценах асыпаўся, тырчаць шэрыя патрэсканыя бэлькі. Дах літаральна пасечаны снараднымі асколкамі. Абвісла матляецца драўляны калодзежны журавель. Пад сцяной ляжаць «бядняцкія дровы» — рознае ламачча, хваёвыя сукі, з большага перавязаныя саломай. Сад зарос бульнягом і пустазеллем.

«Не, — думае Васіль, — далей. Гэты дом для Веранічкі (так сабе ён назваў дзяўчынку) не падыходзіць. У такой галечы яна загіне».

Наступны дом — адны руіны. Абвугленыя сцены, над грудай чарапіцы — агалены комін, выбітыя, абгарэлыя вокны.

Трэці — пад вялізнай разгалістай ліпай. І на ім засталіся сляды вайны. Але нечыя клапатлівыя рукі ўжо прыкладаліся тут: уцалелай чарапіцай пазатыканы дзіркі ў даху, падмецена брукаваная сцежка ад варот да дзвярэй.

Васіль спыняецца. Можа, сюды? Перш чым ён паспявае прыняць рашэнне, да яго даносіцца добра знаёмы, і такі блізкі, ледзь улоўны шолах — гэта карова ў хляве жуе жвачку. Чуваць, як ціха падзынквае ланцуг. О-ох! Васіль гадзінамі б стаяў і слухаў гэтыя гукі. Яны зусім не падобныя на свіст куль і скавытанне снарадаў. Здаецца, нібыта ты ўжо дома.

Васіль з цяжкасцю адганяе ўспаміны. Час не чакае! Ды і ўдача, здаецца, менавіта тут. Малако ж ужо напэўна знойдзецца. Васіль нагой адчыняе брамку, барабаніць у дзверы. Насуперак яго чаканню яе адразу ж адчыняюць. На парозе — прысадзісты стары з хітраватымі вочкамі. Відаць, ён крадком назіраў з-пад шторы за салдатам.

— Добры дзень, таварыш, — гаворыць ён і адыходзіць убок, даючы Васілю прайсці.

«Глядзі ты, чым далей, тым лепш», — думае Васіль. Ён стараецца ступаць асцярожна, здымае пілотку, але першы не ўваходзіць — ён жа не ў сябе дома.

— Праходзь, таварыш, праходзь, — мякка падпіхвае яго наперад стары.

Васіль прысядае на рог табурэткі. Ён не ведае, з чаго пачаць.

— Мільх? — пытае ён. — Ты — мільх?

— Няма малака, — жаласліва ные селянін, — каровы няма, свінні няма, гусей таксама няма. Адзін кот. Вайна ўсё капут.

Васіль на нейкае імгненне нямее, толькі кроў гулка стукае ў скронях... Ён рэзка ўстае з табурэткі, адным рыўком адсоўвае занавеску і наском бота няможна дакранаецца да гаршчка з жоўтай, густой смятанай; потым бярэ каструлю, што стаіць побач, і вывальвае на стол камяк яшчэ не згусла́га тварагу.

— А гэта што? А гэта?—крычыць Васіль.—Ад ката ўсё, так?..

Стары адыходзіць. Удаваную гасціннасць як ветрам змяло з яго твару. Запінаючыся, ён выціскае:

— Вайна нехарашо, таварыш, нехарашо.

«Ах, ты... — думае Васіль, — ты хаваешся за вайну! І яшчэ хочаш ашукаць мяне».

Ён цяжка ступаючы, выходзіць з дома. Ля варот спыняецца, азіраецца яшчэ раз. «Шкада, — думае ён, — дом добры і малако ёсць, вось толькі людзі... Такія людзі — атрута для Веранічкі».

Яшчэ тры дамы. Як блізнюкі, падобныя адзін на адзін, шчытамі на дарогу. Васіль праходзіць міма. Ён не ведае, ці варта яму стукацца ў іх.

За дамамі агароджаны сад. Пупышкі на вішнях і грушах ужо набраклі і гаркава пахнуць. Васіль спыняецца. Які пах!.. На нейкі момант ён заплюшчвае вочы. І ясна бачыць перад сабой Веранічку, — вось яна рве вішні, набівае імі поўны рот, потым адну за адной выплёўвае костачкі.

Больш ён не вытрымлівае. Прэч летуценні, хутчэй у дом! Васіль падымаецца па сходках, стукае ў цяжкія дубовыя дзверы. Ніхто не адчыняе. Васіль стукае зноў — цішыня! Тады ён, не вытрымаўшы, з усёй сілы грукае ў дзверы кулаком. Адгукніцеся, добрыя людзі! Час не церпіць, а справа вельмі важная! Нікога. Але не... З-за дзвярэй спачатку чуецца ледзь улоўны шэпт, потым прарэзлівы спалоханы плач дзіцяці, чуецца другі голас, відаць, голас маці; яна нешта шэпча. Потым зноў усё заціхае.

«За гэтымі дзвярыма яшчэ жыве вайна... — думае Васіль. — Я ж павінен паспрэбаваць загаварыць голасам міру, дабра...»

— Адчыніце, — крычыць ён. — Дзіця ў бядзе, людзі, дапамажыце!—І, пачакаўшы, дадае,—вайна капут!

Але ніхто не адчыняе. Зноў заплакала дзіця, рэзка, віскліва завыла жанчына. Нейкі яшчэ гук даносіцца да Васіля. Ён ужо выразна чуе злоснае рыканне, потым хрыплы брэх.

— Хасо! — чуецца грубы голас немаладой жанчыны.

Не паспеў Васіль апамятацца, як затрымцела разбітая шкліна і вялізны сабака, захліпваючыся ад лютасці хрыплым брэхам, прама праз акно выскачыў на двор. З разяўленай акрываўленай зяпай ашалелы звер накідваецца на Васіля. Васіль адшпурвае яго і кідаецца да варот, але аўчарка ўпіваецца ў рукаў яго гімнасцёркі; Васіль адчувае, як сабачая зяпа пякуча сціскаецца, налоўчаным рухам дамагаючыся дабрацца да горла. Але Васіль моцна б'е выжла ботам, дабягае да варот, імгненна праціскваецца ў вузкую шчыліну ў браме, і ўсім цяжарам навальваецца на яе знадворку.

Прайшло ўсяго толькі некалькі секунд. Васіль хацеў прынесці ў гэты дом мір, а цяпер нервовым халодным рухам дастае пісталет, наводзіць яго на раз'юшанага сабаку і, перарывіста дыхаючы, чакае моманту, каб спусціць курок і не прамахнуцца.

Васіль не страляе. Ззаду ў яго нехта моцна лаецца. Васіль не разумее, але ўпэўнены, што лаянка датычыцца яго. Прыцэліцца як след ён ужо не можа. А страляць наўздагад — не ў яго звычцы. Ён засоўвае пісталет у кішэню.

«Сабака — ён і ёсць сабака, — разважае Васіль, супакойваючы сябе. — Паводзіць сябе так, як яго навучылі. Дзе ўжо яму там ведаць, хто прыходзіць з добрым, а хто з благім намерам, калі нават людзі тут не здольны на гэта. Хто ведае, колькі яшчэ разоў паспеюць вішні, перш чым гэтым людзям можна будзе са спакойным сумленнем даверыць выхаванне малога дзіцяці».

Гнеў у Васіля праходзіць. Ён азіраецца і бачыць на дарозе старую жанчыну, прыгорбленую, у завязанай пад барадой хустцы, з маршчынамі каля вачэй і рота...

Старая заўважыла Васілёў падраны рукаў і ўжо не адпускае яго, цягне за сабой; міма трох дамоў, што шчытамі на дарогу, міма дома пад ліпай, міма той абгарэлай руіны да першага дома злева...

І вось ён, Васіль, сядзіць у зялёнай майцы, пажаўцелай ад поту, і пацірае голыя мускулістыя рукі. Ці помніць ён яшчэ загад лейтэнанта? Бо час жа не церпіць! Кожнае шво, якое бабуля робіць на падраным рукаве, цягнецца добрай паўхвіліны. Час ад часу яна адрываецца ад работы: трэба выгнаць з хаты курэй ці папалохаць худую казу, што ўсунула ў акно барадатую мызачку. А тут яшчэ дзеці. Адно, другое, трэцяе — так і пасыпаліся з-пад стала. Старэйшы, гадоў пад пяць, наставіўшы на незнаёмага кій, крычыць: «Пуф!» — і бабулі зноў трэба адрывацца ад шціва, каб шлёпнуць занадта жвавага стралка, адабраць у яго кій, зламаць аб калена і шпурнуць у печ. На ўсё гэта ідуць каштоўныя хвіліны. Але Васіль не заўважае гэтага.

Ён сядзіць моўчкі, а думкі яго далёка-далёка. Можа, у маленстве, у яго бабулі ў беларускай вёсачцы. Ён бачыць: вось яна сядзіць і латае, вось праганяе курэй, з дабратой шлёпае дзяцей, клапоціцца аб міры і спакоі ў хаце. І яму прыгадваюцца тыя бабулі, што выходжвалі параненых салдат, забываючыся пра сябе, пакуль не валіліся з ног. І тыя, якія, маючы патрэбу ў доглядзе самі, працавалі на палях, вырошчвалі хлеб для фронту, а самі да хлеба амаль не дакраналіся і ўсё ж не слаблі. І тыя, маленькія, зморшчаныя бабулькі, што хавалі ў сябе дома людзей, якіх вышуквалі фашысты. Цэлымі начамі яны калаціліся ад страху, але ўсё ж не адмаўляліся ад сваіх добрых учынкаў. Ах, бабулі, бабулі! Васілю хацелася абняць іх усіх, усіх, і гэтую старую немку, што латае яму гімнасцёрку. Вядома, дзірку ў даху яна не можа залатаць, а ўжо пра тое, каб у садзе перакапаць, не можа быць і гаворкі. Але затое ў гэты цяжкі час яна клапоціцца аб трох малых дзецях.

Васіль падымае галаву. Так, ім то ўжо можна давярыцца, гэтым бабулям з ласкавымі маршчынкамі каля вачэй. Яны самі, без прымусу, робяць, калі трэба, добрае чалавеку...

Гімнасцёрка залатана. Васіль устае, стукнуўшыся галавой аб бэльку на столі, усміхаецца. Бярэ гімнасцёрку, але не дзякуе. Пакуль што не дзякуе. Таму што ён хутка вернецца. З хлебам і салам і з Веранічкай.

Пераклаў з нямецкай Мікола НАВІЦКІ.

---

настаўнікам Пагарэльскага народнага вучылішча недзе ў Мінскай губерні. З Мінска, дакладней — з канцылярыі губернатара, па розных народных вучылішчах губерні была паслана тады афіцыйная папера з просьбай абследаваць і апісаць помнікі старыны, якія знаходзяцца ў акрузе той ці іншай навучальнай установы. Адгукнуліся на гэты заклік далёка не ўсе з тых, да каго ён быў звернуты. Сведчаць пра гэта адказы, якія захаваліся. Адны спасылаліся на тое, што балоцістая мясцовасць не дазваляе правесці навуковае апісанне помнікаў, іншыя проста адпісваліся: «На нашай тэрыторыі помнікаў старыны не знойдзена». Зусім іначай падышоў да справы настаўнік Адам Багдановіч, які ўжо меў к гэтаму часу пэўны краязнаўчы вопыт. Яго глыбока цікавіла мінулае кожнай мясціны, куды трапляў. Ён узрадаваўся магчымасці быць практычна карысным. Магчыма, ужо тады, у Пагарэльцах, мроілася яму задума вялікай краязнаўчай работы «Мова зямлі»...

«У межах Пагарэльскай воласці, — піша Адам Ягоравіч, — знаходзяцца толькі земляныя насыпы, якія называюць курганамі і гарадзішчамі, паходжанне якіх паводле расказаў старажылаў адносіцца да шведскай вайны і вайны 1812 года. Пры вёсцы Цэль, на тэрыторыі воласці, ёсць умацаванне, падобнае на старадаўняе гарадзішча. Ёсць на ім вал. Мясцовае паданне сцвярджае, што ўмацаванне было ўзведзена ў час шведскай кампаніі. Такое ж гарадзішча намі выяўлена непадалёк ад вёскі Цергуты, але не на адкрытым полі, а ў лесе. Гарадзішча абнесена валам, а лес вакол вырас мабыць пазней».

Адам Ягоравіч расказвае ў гэтым данясенні, што яму самому давялося прайсці нямала вёрстаў, каб на месцах далёкага мінулага пазнаёміцца з помнікамі, апісаць іх. Памагалі яму ў гэтай рабоце і школьнікі. Іх ён здолеў зацікавіць краязнаўствам, як пазней зацікавіў і свайго сына Максіма.

Далей Адам Ягоравіч піша пра «шведскія гарадзішчы», падрабязна апісвае шэраг курганоў. Не жадаючы ўводзіць будучых даследчыкаў у зман якімі-небудзь домысламі, ён падкрэслівае: «аб паходжанні вышэй памянёных курганоў ніякіх верагодных звестак у Пагарэльскай воласці ў цяперашні час няма».

Данясенне Багдановіча, памечанае 29 лістапада 1882 года, зацікавіла мінскіх археолагаў і ўвайшло ў агульнае апісанне помнікаў старыны Мінскай губерні. Яно, праўда, загубілася, а можа і зусім не было выдадзена.

Яшчэ адзін цікавы дакумент... У жніўні 1896 года паблізу вёскі Студзёнкі землечарпалкі ачышчалі русла Бярэзіны. Студзёнка — вядомае месца пераправы напалеонаўскіх войскаў. Разам з пяском землечарпалкі паднялі з дна ракі, як паведамляе барысаўскі павятовы спраўнік, «салдацкія шашкі, афіцэрскія шаблі, ружэйныя рулі, крамянёвыя замкі, казацкія пікі рознай велічыні, сярэбраныя замежныя манеты, кафейнік, медныя чайнікі, страмёны і іншыя прадметы». На адной шаблі, несумненна ўкрадзенай акупантамі ў Маскве, быў надпіс імператрыцы Екацярыны. Усе гэтыя знаходкі былі накіраваны ў Пецярбург у адрас Артылерыйскага музея...

Я расказаў толькі пра дзве справы з Гістарычнага архіва рэспублікі, якія маюць дачыненне да цікавых фактаў з мінулага Беларусі.

Яфім САДОЎСКІ.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

# АФАРЫЗМЫ

**Олдржых ФІШАР.**

*Многія не ведаюць нічога, але суцяшаюць сябе тым, што чалавек не можа ведаць усё.*

⊙

*Жыццё такое кароткае, што трэба дзякаваць нудзе — яна прадаўжае яго нам.*

⊙

*Калі жанчына губляе галаву, гэта не азначае, што ёй не спатрэбіцца новы капялюш!*

⊙

*Некаторых людзей мы хвалім, бо яны нас не асуджаюць; некаторых, наадварот, асуджаем, бо яны нас не хваляць.*

⊙

*На шляху да кар'еры многія надаюць больш увагі чужым сілам, чым сваім слабасцям.*

⊙

*Афарыст — чалавек, які не ведае іншага спосабу стаць смешным.*

⊙

*Каханне — ціхае. Гук і голас яно набывае ў шлюбе.*

⊙

*Каханне раўнівага, што жыццё хворага.*

⊙

*На жаль, толькі людаеды прымаюць чалавека такім, якім ён ёсць.*

**Ёзаф ДЗУРКА.**

*Настолькі ўвайшла ў сваю прафесію суддзі, што асудзіла і вячэру, якую прыгатаваў клапатлівы муж.*

**Ян БЯЗОЎШКА.**

*Плёў пятае праз дзесятае—за пятнаццаць крон у гадзіну.*

⊙

*Самыя чорныя свае справы ўмеў падаваць у фарбах.*

⊙

*Канец сходу — пачатак крытыкі.*

**Ёзаф ПОЛАЧАК**

*Смела ўступіў на новую дарогу, бо перад тым выслаў на разведку сваю жонку.*

⊙

*Хаця пазнаёміліся на канцэрце, але ў шлюбе да ладу не дайшлі.*

⊙

*І з першага паверха можна глядзець на людзей звысоку.*

⊙

*Сядзець можа і высокапастаўлены.*

**Мілан КЕНДА.**

*Нарэшце нехта папрасіў яе рукі: каб зняць адбіткі пальцаў.*

⊙

*Здольны работнік і ў рабочы час разгадае хаця б адзін красворд.*

⊙

*Жыццё духоўнай асобы не варта аўтаматычна атоесамліваць з духоўным жыццём.*

**Станіслаў КІЦБЕРГЕР**

*Кожны павінен перажыць адно няшчаснае каханне. Звычайна на ім жэняцца.*

⊙

*У нас дзве катэгорыі сяброў. Адны могуць быць нам карысныя, а іншыя памылкова думаюць, што могуць мець ужытак з нас.*

*З чэшскай і славацкай пераклаў А. МАЖЭЙКА.*

**Б. ГЕРСТАН.**

# СТЫЧКА

...Ён ужо амаль ляжаў на лапатках. Мне заставалася толькі даціснуць і... Але нейкім няўлоўным рухам ён усё-такі выслізнуў з маіх рук. І зноў — ужо ў каторы раз! — куляй споўз з дывана. Давялося літаральна за ногі ўсцягваць яго назад. І зноў усё пачалося спачатку...

Мы паглядзелі адзін аднаму ў вочы. Ён спакойна ўсміхнуўся і працягнуў мне рукі. Не, я не вытрымаю гэтага! Ідзе ўжо пятая мінута стычкі, а ў мяне нічога не атрымліваецца! Я стаміўся, пот засцілае мне вочы, цяжка дыхаць. Ён зноў працягнуў да мяне рукі. «Калі не дасць сябе абхапіць—канец»,— мільганула думка. Ён на хвіліну расслабіўся. Я абхапіў яго за шыю і правёў падсечку. Ён стаў на мост і... зноў выслізнуў! Ішла восьмая мінута...

Дзевятая мінута... Вось-вось фінал! Я праводжу «млын». Ён... выслізгвае!

Дзесятая мінута. Я праводжу «нельсан». Ён... спаўзае з дывана.

Дваццаць трэцяя мінута. З апошніх сіл іду наперад... Удалося схапіць яго за ногі! Рэзка падымаю рукі ўгору, абхопліваю яго талію. Усё! Перамога.

Мне, нарэшце, удалося надзець паўзункі на свайго дзевяцімесячнага сына.

**С. ВАЙЦІКЕВІЧ**

# ДОБРАЕ ВЫХАВАННЕ

— Ты зусім не цікавішся нашым дзіцем, — сказала пані Антоля свайму мужу.—А яго ж трэба выхоўваць. Вучыць ветлівасці. Раз ты гэтым не займаешся, дык з сённяшняга дня выхаваннем Мацюся займуся я сама. Наш сын павінен быць ветлівы. Галоўнае — педагагічны падыход.

Праз некалькі дзён пан Адам чуе з суседняга пакоя:

— Мама, дай мне яшчэ шакаладку.

— Як трэба папрасіць, Мацюсь?

— Калі ласка.

— Што — «Калі ласка»?

— Дай мне, калі ласка, шакаладку.

— Каго ты просіш?

— Маму.

— Якую маму?

— Дарагую маму.

— Цяпер скажы ўсё харашэнька яшчэ раз.

— Дарагая мама, дай мне, калі ласка, яшчэ адну шакаладку.

— Як табе не сорамна! Ты ж з'еў ужо тры! Няўжо табе мала?

Пан Адам уздыхнуў і, здаецца, крыху засумняваўся ў педагагічных талентах сваёй жонкі.

З польскай мовы пераклаў
Ул. СТРУМІЛА.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ.**

## НА РАДАСЦЬ МЫШАМ

**Хоць вывозьце самазвалам —**
**Усюды кніг яго навалам.**
**Пыл асеў, зацвіла плесня**
**На яго цудоўных песнях...**
**І на радасць тым жа мышам**
**Ён штодня ўсё піша, піша...**

**Мікола ВЯРШЫНІН.**

## ЗВЫШ-ПАДХАЛІМАЖ

**Даклад начальнік скончыў і пытае:**
**— Магчыма, думку іншую хто мае!**
**Вось вы, скажыце проста**
**пры народзе...**
**— Так, маю, але... з ёю я**
**не згодзен...**

**Павел ШЫБУТ**

## МІМАХОДЗЬ

**Паспяшыш — людзей насмяшыш. Таму ён лічыў за лепшае адставаць.**

□

**Свой шлях у літаратуру ён пачаў са скаргаў.**

□

**Ружу на сэрца не кладзі: уколе.**

□

**Сумленне яго не мучыла: ён мучыў сумленне.**

□

**Некаторыя і ў пекле рай знойдуць.**

□

**Калі б не было аслоў, дык на кім бы некаторыя выязджалі?**

□

**Ногі кормяць не толькі ваўка, але і сучаснага рыбака.**



**Сёлетні грыбной парой.**

# ГРЫБЫ, ГРЫБЫ...

Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА.










**Гэтага грыба не чапайце. Яго нават людзі не ядуць.**


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.







Індэкс 63856 АТ 07933